# ШАБАШ ВЕДЗЬМАЎ НА ЛЫСАЙ ГАРЫ С.6


# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №23 (180) 5 ЧЭРВЕНЯ 2000 г.


## БЫКАВА НЕ ВЫПУСКАЮЦЬ ЗЬ НЯМЕЧЧЫНЫ



Здымак Анатоля Клешчука

*Васіль Быкаў, які прыехаў у Нямеччыну на запрашэньне тамтэйшага ПЭН-цэнтру, цяпер пазбаўлены магчымасьці зь Нямеччыны выяжджаць.*

Гэтымі днямі ў Варшаве меркавалі наладзіць прэзэнтацыю польскага перакладу быкаўскай «Сьцяны», што выйшла ў беластоцкім выдавецтве Аляксандра Максымюка і была вельмі прыхільна сустрэтая польскай прэсай і крытыкай.

Быкаў, аднак, ня можа прыехаць на прэзэнтацыю кнігі ў Варшаве 5 чэрвеня, якую ладзіць Інстытут Беларускай Культуры. Рэч у тым, што нямецкія ўлады падоўжылі яму візу на перабываньне ў краіне на паўгады толькі як аднаразовую. Цяпер ён ня мае магчымасьці выехаць зь Нямеччыны, бо ня змог бы вярнуцца назад.

Польскія беларусы ў кулюарах гавораць, што ідзецца пра фактычнае інтэрнаваньне беларускага пісьменьніка, «каб ня езьдзіў і не настройваў сусьветнай грамадзкай думкі супраць рэжыму Лукашэнкі». Прыкры факт абмежаваньня свабоды перамяшчэньня Васіля Быкава, лічаць яны, — гэта яшчэ адзін штрых у двухсэнсоўнай нямецкай стратэгіі да Беларусі, перадусім скіраванай на забесьпячэньне бясплатнага транзыту зь Нямеччыны ў Расею без увагі на інтарэсы беларускай незалежнасьці.

**Барыс Тумар**

*Новае апавяданьне Васіля Быкава чытайце на 11-й старонцы гэтага нумару «НН».*

## ЗЬЕЗД НАРОДНАЙ ГРАМАДЫ




Здымак IREX/PROMmedia

Народная Грамада была вымушаная ў апошні момант зьмяніць месца правядзеньня свайго зьезду, які пачаўся ў Менску пазаўчора. Прадстаўнікі кампаніі «Белінтурыст», чыё па-

*Працяг на старонцы 2*

## Замест турмы — 1000 даляраў

Крычаўлянка Марыя Ярковіч выйграла судовы працэс у мясцовай міліцыі. Год таму яе арыштавалі, абвінаваціўшы ў крадзяжы маёмасьці. Пратрымалі тры месяцы за кратамі, а потым суд з-за недаказанай віны вызваліў яе адразу ў залі паседжаньня. І вырашыла Марыя Ярковіч, што міліцыя мусіць кампэнсаваць нанесеную ёй шкоду, і падала позву ў суд. Судзьдзя знайшла, што міліцыя сапраўды парушыла правы грамадзянкі і прызначыла 950 тысяч рублёў кампэнсацыі, што ў пераліку складае амаль 1000 даляраў. Во багацьце на цётку звалілася!

**Сымон Глазштэйн, Магілёў**

Чачэнія

## Прапала лінія фронту

***У суботу ў штабе расейскіх войскаў на Паўночным Каўказе паведамілі сэнсацыйную навіну: у «вызваленым» Грозным — паўтысячы чачэнскіх партызанаў, якія выдатна ўзброеныя.***

Паводле зьвестак з таго ж штабу, сытуацыя ў Чачэніі зноў абвастраецца. Толькі за адзін дзень 3 чэрвеня чачэнцы зрабілі 28 атак на расейскія войскі. Паводле расейскіх вайскоўцаў, было забіта 168 чачэнцаў. Але ўвага! Яны былі забітыя пры спробе прарыву з Дагестану! Высьвятляецца, што там таксама каля паўтысячы партызанаў — «ня менш прадумана ўзброеных».

*Працяг на старонцы 5*

# ДОН ЖУАН ВЯРНУЎСЯ Ў МЕНСК

### Але вартых жанчын для яго не знайшлося

Так, урэшце даляцеў і да нас апошні шалёны крык эўрапейскае моды! 28 траўня ў Беларускай опэры адбылася прэм'ера «Дон Жуана». Падзея, можна сказаць, сымбалічная. Варта нагадаць, што першым спэктаклем першай эўрапейскай опэрнай трупы, якая адкрыла для сябе Амэрыку (а на чале гэтай трупы стаяў бацька Паліны Віярдо — славуты тэнар Мануэль Гарсія), быў менавіта «Дон Жуан».

Гэткія былі моды ў заходнім сьвеце ў 1826 годзе. Потым прыйшла чарга на музыку цяжкастраўную, «тлустую»: у Эўропе — на Вагнэра, у Расеі — на Мусаргскага, у нас — на цымбальны аркестар імя Жыновіча. Аднак Моцарт перамагае ўсіх, бо ён глыбей за кожнага іншага кампазытара ведаў чалавечую душу. Моцарт — лёгкакрылы, сьпеўны і трагічны, бясхітрасна просты і неверагодна цяжкі для зразуменьня; Моцарт-разумнік і Моцарт-дзіця.

Зрэшты, сёй-той зь менчукоў мо нават прыпамінае, што «Дон Жуан» у нас калісьці ўжо быў. «Фэшэнэбэльная» пастаноўка 1973 году, дзеля якой запрасілі з Масквы сусьветна вядомага тэатральнага мастака В.Левенталя. Дырыгаваў таксама легендарны ўжо Уладзімер Машэнскі: сябар Рыхтэра, музыка Божаю ласкаю, выдатны знаўца моцартаўскага стылю. Мізансцэны апрацаваў рэжысэр Атар Дадзішкіліані. А якія там былі акторы! Дастаткова нагадаць Аркадзя Саўчанку ў ролі Дон Жуана і Людмілу Златаву ў ролі Цэрліны... Шкада, што ад гэтага спэктаклю засталіся адныя толькі ўспаміны. Во зьнік той «Дон Жуан», а дэкарацыі Левенталя мясцовыя «мысьляры» неўзабаве спалілі — каб меней хлуду было.

І вось, дзякуючы тым працавітым дзядзькам, прыйшлося цяпер ставіць «Дон Жуана» нанова, з нуля. Але чаго ня зробіш дзеля любові да мастацтваў! Ну, мо акрамя любові, тут было яшчэ крыху розьніцы — з усімі апошнімі пастаноўкамі. Аднак што тут дрэннага, калі тэатар хоча на гастролі — Эўропу паглядзець ды грошай зарабіць? А ў выніку, ледзь ня ўвесь рэпэртуарны плян Беларускай опэры (за выняткам уласна беларускіх опэраў — ці, дакладней кажучы, опэраў, напісаных самім дырэктарам) складаецца з тых спэктакляў, што замаўляюць тэатральнаму кіраўніцтву заежджыя дылеры і імпрэсарыё. Гэткім чынам, намінальна Беларуская опэра працуе на задавальненьне патрэбаў менскага гледача; але фактычна мянчук у Опэры атрымлівае толькі тое, што рыхтавалі для нейкіх там швэйцарцаў ці немцаў. Адное пачасьце, што спэктакаль — у адрозненьне ад імяніннага торту — не зьмяншаецца ад таго,



што ім частуюць дамачадцаў яшчэ да прыходу важных гасьцёў. Інакш нам бы ўвогуле нічога не паказвалі.

Гэтым разам «Дон Жуана» рыхтавалі для чарговага летняга фэстывалю ў Швэйцарыі. Замоўца — аўстрыйскі дырыжор Ральф Вайкерт, музыка з сусьветным імем (ён часам дырыгуе нават у лёнданскім Covent Garden). У першых днях чэрвеня пасьля канцэрту ў Вене ён мусіць наведаць Менск, каб прадырыгаваць спэктаклем «Турандот». А ў Вену ён прыехаў з Шанхаю, дзе кіраваў акурат пастаноўкай «Дон Жуана». У Шанхай эўрапейскія моды траплююць раней, чым у Менск, і выклікаюць там болей энтузіязму; дый сьпевакі там значна лепшыя. Але не павязеш жа іх праз усю Эўразію да Альпійскіх гораў, дзе бадзяецца шакалядная карова Мілка, набітая знутры лясьнымі арэхамі! Таму аўстрыйскія дырыжоры надта любяць Менск; і нам, простым менчукам, з гэтае нагоды таксама нешта перападае. Хаця б кавалак добрай музыкі.

Але добрую музыку трэба добра выконваць. І вось тут пачынаюцца праблемы, бо з сучаснымі модамі ў музыцы атрымоўваецца дакладна тое, што і з сучаснымі модамі ў вопратцы. Кароткія спаднічкі, вузкія сукенкі з разрэзамі аж да таліі — усё гэта прыгожа выглядае на юных топмадэльках, выразна падкрэсьліваючы зграбнасьць іхных паставаў. А калі гэткую спаднічку надзявае тлустая савецкая цётухна з крывымі нагамі... Акурат тое самае бывае й з выкананьнем моцартаўскіх опэр. У высокапрафэсійным эўрапейскім тэатры яны адразу пераўтвараюцца ў гіт сэзону; а калі гэткага прафэсіяналізму ў выканаўцаў няма, дык у сьвятле «моцартаўскага пражэктара» ўсе хібы пастаноўшчыкаў і выканаўцаў становяцца яскрава відавочнымі. Як крывыя ногі бедней савецкай цётухны.

Менавіта гэтак і выглядала сёлетняя прэм'ера «Дон Жуана» — паводле анонсу, «у канцэртным выкананьні». Але бяда зусім ня ў тым, што на сцэне амаль не было дэкарацыяў. Як напраўдзе, іх было нават болей, чым у нашумелым спэктаклі з фэстывалю ў Равэне, дзе на сцэне было толькі шэсьць крэслаў і акторы, апранутыя ў цёмна-блакітную, псэўдаклясычную ўніформу. Але колькі там было найдэлікатнейшай псыхалёгіі і найпрыгажэйшага вакалу, колькі акторскай гульні і колькі праўдзівых пачуцьцяў!

У Беларускай опэры ўсё выглядала іначай. Былі строі (і нават ладныя); былі памосты для сцэнічных аркестраў, прыгожыя віяланчэлі і кантрабасы, якія маўкліва і сьціпла чакалі на сваіх гаспадароў; быў клявэсын, на якім канцэртмайстар Ларыса Таўкачова прынародна (і вельмі прафэсійна) разыгрывала акампанэмэнты да рэчытатываў; былі — замест крэслаў — даволі стыльныя кубічныя сядзеньні для сьпевакоў; і было сцэнічнае дзеяньне, надта фрагмэнтарнае. Здаецца, аўтары спэктаклю — і перш за ўсё маладая рэжысэрка Тацяна Сальнікава — так і ня высьветлілі для сабе, чым ён мусіць быць: сапраўдным спэктаклем ці опэрай у канцэртным выкананьні. А ў выніку атрымаўся спэктакаль, якому шмат чаго не стае і ў якім аж зашмат розных бязглуздзіцаў.

Уявіце сабе, напрыклад, што дзесьці там у глыбіні, у правай кулісе Дон Жуан гвалціць дзяўчыну; а на сцэне ў гэты час адбываецца баль, на якім прысутнічаюць усе астатнія пэрсанажы (у тым ліку жаніх дзяўчыны). Нябога крычыць паратунку, а на ейны крык усе прысутныя (плюс тры аркестры) нясьпешна ідуць у супрацьлеглы бок. Павольней за ўсіх крочыць жаніх, сядае на тумбачку і летуценна глядзіць у далечыню. Дзе ўжо там да славутых тонкасьцяў моцартаўскай псыхалёгіі, да пранікненьня ў таямнічыя глыбіні чалавечае душы!

Але ўсё гэта палова бяды. Зрэшты, бязглуздзіцу на сцэне яшчэ можна неяк направіць; дый, прынамсі, мы ходзім у опэру ня столькі глядзець, колькі слухаць. І вось тут пачынаюцца галоўныя праблемы. Адзінае, што суцяшае, — у прэм'ерным спэктаклі зазвычай удзельнічаюць ня самыя галасістыя сьпевакі, а самыя гарластыя і настырныя, тыя, хто здольны выбіць для сабе гэткі прывілей. А таксама паездку на гастролі. І гэта дае надзею, што калі-небудзь у будучыні, пасьля заканчэньня летняй гастрольнай ліхаманкі, мы пачуем нармальнага «Дон Жуана», з нармалёвымі прымадонамі. А пакуль што... карціна атрымліваецца жудасная.

*Працяг на старонцы 4*

# ЗЬЕЗД НАРОДНАЙ ГРАМАДЫ

Працяг са старонкі 1

мяшканьне каля гатэлю «Юбілейны» БСДП-НГ брала ў арэнду на час зьезду, наведалі офіс партыі 2 чэрвеня і вярнулі грошы за арэнду, не растлумачыўшы прычынаў адмовы. Як ні шукалі сацыял-дэмакраты новага памяшканьня, усюды ім адмаўлялі. Таму ад месца збору каля «Юбілейнага» дэлегаты накіраваліся ў сядзібу БНФ «Адраджэньне» на Варвашэні, 8, дзе й пачаўся зьезд. Па дарозе дэлегатаў здымалі на відэакамэру супрацоўнікі міліцыі.

Адно з найважнейшых пытаньняў зьезду — пра магчымы ўдзел партыі ў парлямэнцкіх выбарах гэтай восеньню. Паводле словаў старшыні партыі, сп.Статкевіча, БСДП-НГ спрабавала быць больш гнуткай у гэтым пытаньні, спадзеючыся, што Аляксандар Лукашэнка, страціўшы надзеі атрымаць рэальную ўладу ў Маскве, пойдзе на кампрамісы з апазыцыяй дзеля захаваньня незалежнасьці Беларусі. «Але, на жаль, улады ўспрымаюць любыя спробы кампрамісу як слабасьць, — заявіў кіраўнік БСДП (НГ). — Мы можам заявіць аб сваёй гатоўнасьці ўдзельнічаць у выбарах толькі калі мы ўбачым рэальныя зрухі з боку ўлады. У адказ на ўціск трэба дэманстраваць жорсткасьць».

Зьвяртаючыся да зьезду ад імя Партыі БНФ, Юры Хадыка прапанаваў, каб асобным пунктам на зьезьдзе было прынята рашэньне пра ўдзел БСДП-НГ гэтым летам у Кангрэсе дэмакратычных сілаў, дзе б узгоднена прымалася рашэньне пра ўдзел ці няўдзел апазыцыйных партыяў у парлямэнцкіх выбарах. Ю.Хадыка адзначыў, што на парлямэнцкія выбары ўвосені можна ісьці толькі ў тым выпадку, калі ўлады пагодзяцца як мінімум на дзьве ўмовы — удзел прадстаўнікоў апазыцыйных партыяў у выбарчых камісіях і выбары часткі дэпутатаў па партыйных сьпісах. Прыняцьце гэтых дзьвюх умоваў гарантавала б апазыцыі сур'ёзнае прадстаўніцтва ў парлямэнце і магчымасьць рэальна ўплываць на сытуацыю ў краіне. Калі гэтыя ўмовы ня будуць выкананыя, апазыцыі трэба байкатаваць выбары, лічыць кіраўніцтва Партыі БНФ.

**Аляксей Знаткевіч, БелаПАН**

НАВІНЫ

## Касіць «дапаможа» пракуратура

Напрыканцы мінулага тыдня каля трох соцень кіраўнікоў прадпрыемстваў розных формаў уласнасьці ў працоўны час былі выкліканыя ў Пінскі выканкам. Намесьнік старшыні Алесь Гордзіч зачытаў тэлеграму старшыні аблвыканкаму Васіля Даўгалёва пра незадавальняльныя тэмпы нарыхтоўкі кармоў і пра неабходнасьць тэрмінова паскорыць тэмпы сенакосу. Да ўжо існуючых нормаў Даўгалёў загадаў дадаць яшчэ 20%. Такім чынам, заданьні, якія на сёньняшні дзень выкананыя прадпрыемствамі, толькі на 0,3% па нарыхтоўцы сена і на 35% па фінансавай дапамозе, вырашана падвялічыць яшчэ напалову.

Кіраўнікам прадпрыемстваў паведамілі, што калі неабходная колькасьць сена ня будзе нарыхтаваная, дапамагаць выконваць норму будзе пракуратура.

**Аляксей Дзікавіцкі, Пінск**

## Дні і ночы сельскіх саветаў

Апошні тыдзень нешта дзіўнае тварылася ў Маляцінкім сельсавеце Крычаўскага рёну. Калгасьнікі дзелавіта снавалі туды-сюды, нешта пераносілі, нешта перакатвалі, фарбавалі платы ўздоўж цэнтральных вуліц Маляцічаў ды іншых вёсак сельсавету. Прадаўцы ў крамах тэрмінова падпраўлялі справаздачную дакумэнтацыю і малявалі цэньнікі на тавары.

Рэч у тым, што Крычаўскі райвыканкам пастанавіў на працягу гэтага году пэрыядычна праводзіць так званыя Дні сельскіх саветаў. Вось і падыйшла чарга Маляцінкага. На мерапрыемства зьехаліся ўсе начальнікі аддзелаў райвыканкаму, старшыні калгасаў, запрасілі нават людзей з аблвыканкаму (але яны не прыехалі). В/а старшыні сельсавету В.Кавалёў расказваў пра посьпехі гаспадаркі, частаваў хлебам-сольлю. Паводле неафіцыйнай інфармацыі з Крычаўскага райвыканкаму, на арганізацыю Дня сельсавету выдаткаваны 1 мільён рублёў. Грошы не такія ўжо вялікія, але, калі ўлічыць, што заробкі калгасьнікаў вагаюцца ў межах 5-7 тысяч...

Дарэчы, у Маляцінкай сярэдняй школе з-за безграшоўя вось ужо месяц няма вады — ідзе рамонт водаправоду, вучняў з аддаленых вёсак ня кормяць, адменены летні лягер для школьнікаў. А лягер — гэта адзіная магчымасьць для многіх вясковых дзяцей проста паесьці. З-за жабрацтва і пітучасьці бацькоў вялікая колькасьць дзетак Маляцінкага сельсавету галадае. Тымчасам шаноўныя госьці знаёмяцца з посьпехамі калгаснага ладу...

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

## Ад сухотаў будуць лячыць прымусова

У магілёўскім дыспансэры для хворых на сухоты пачалі прымусовае лячэньне тых, хто сам ня хоча пазбывацца жахлівай хваробы. Нават вызвалілі для такіх 30 адмысловых ложкаў. Пры гэтых ложках будзе дзяжурыць міліцыянт, каб не зьбягалі з дыспансэру. Падобную жорсткасьць мэдычныя ўлады тлумачаць пагаршэньнем агульнай сытуацыі з захворваньнямі на сухоты. Мэдыкі спрабуюць такім чынам спыніць бяду. І ўсё ж законнасьць падобнага прымусу выклікае вялікія сумневы.

Сымон Глазштэйн, Магілёў

## КГБ і Сонца Маладзіковае

Пры ТБМ Жодзіна і Смалявіцкага раёну існуе Асацыяцыя Дэмакратычных Настаўнікаў «Сонца Маладзіковае», якая выдае інфармацыйны бюлетэнь «Школьны веснік». У № 1 ад 2000 г. была зьмешчаная інфармацыя пра мэты асацыяцыі, пра прыватны беларускамоўны садок Смалявічаў, пра вандроўкі, сьвяты, школы, пра традыцыі беларусаў.

Пасьля выхаду бюлетэня супрацоўнік КГБ званіў на месцы працы аўтараў матэрыялаў, зьдзіўлена пытаючыся ў кіраўніцтва: «Яны ў вас працуюць?»

Пасьля такога тэлефанаваньня ў СШ № 4, дзе працуе адна аўтарка, калегі старанна перачытвалі яе артыкул, але ніяк не знаходзілі крамолы. Тая проста апісала вандроўку зь дзецьмі ў адну вёсачку, ні больш, ні менш.

Дзіўныя людзі! КГБ трэба ж таксама нешта пісаць у дакладных аб працы.

**С.Германовіч, Жодзіна**

ЛІСТЫ Ў РЭДАКЦЫЮ

## Злачынства бяз тэрміну даўнасьці

*Жылі мы ў мястэчку ў Заходняй Беларусі. Дзесьці ў пяцідзясятыя гады, як хадзіў я ў школу, неяк у хаце сказаў, што вёску Боркі спалілі немцы. Тады мая маці распавяла мне, што вёску Старажоўшчына і вёску Боркі Івацэвіцкага раёну спалілі партызаны.*

*У Старажоўшчыне сваякоў не было, таму падрабязнасьцяў мы ня ведалі. У Борках жа жыла вялікая сям'я роднага брата маёй мамы. А на невялічкім хутары пад Слонімам жыла іх родная сястра. Гэтыя партызаны часьцяком заходзілі на хутар і нават пакідалі там параненых. Таму і папярэдзілі, што калі ёсьць сваякі ў Борках, дык «хай уцякаюць!» Але вайна, шасьцёра малых дзетак... І сям'я засталася ў Борках. «Самаахоўцы» не пускалі партызан у вёску ад лесу, дык тыя ўвайшлі з боку мястэчка.*

*Калі жонка майго дзядзькі ўбачыла, што ідуць два партызаны паліць хату, дык выйшла насустрач: «Хлопчыкі, не паліце хату, вунь шасьцёра дзетак у акопчыку сядзяць!» Адзін партызан стрэліў угару: «Уйдзі, сука!» А другі яго паправіў: «Разве так бьют, вот так бьют!» Савецкі партызан застрэліў беларускую маці шасьцярых дзяцей і спаліў іх хату.*

*Можа, той забойца і цяпер жыве ды атрымлівае прывілеі. Але ж і тое ваеннае злачынства ня мае тэрміну даўнасьці.*

**Мікола Цярэшка, Менск**

## Падтрымаем беларускамоўныя выданьні

*Апошнім часам меншае наклад беларускамоўных выданьняў у нашай краіне. Сёньня нават такія дэмакратычныя газэты як «Народная воля» ды «Наша свабода» друкуюцца на дзьвюх мовах. І трэба заўважыць, што публікацыі на расейскай мове, на жаль, пераважаюць. Таму мы цалкам падзяляем жаданьне сапраўднай беларускай газэты «Наша Ніва» выходзіць ня проста па-беларуску, а й паводле клясычнага правапісу, і абураныя мэтанакіраванаю палітыкай дзяржаўных уладаў у зьнішчэньні газэты толькі за тое, што рэдакцыя мае сумленьне праз артыкулы сваіх аўтараў ды лісты чытачоў казаць праўду пра сапраўдную Гісторыю і сучаснасьць нашай краіны, пра дзяржаўную палітыку вынішчэньня ўсяго беларускага, пра дыскрымінацыю ў Беларусі Беларуса! І гэта ў той час, калі з маўклівага бласлаўленьня дзяржавы розныя калядзяржаўныя структуры (а нават Праваслаўная Царква!) беспакарана друкуюць ды распаўсюджваюць літаратуру фашыстоўскага зьместу!*

*Таму ТБМ заклікае падтрымаць беларускамоўныя выданьні праз падпіску ды падпісацца на ІІ паўгодзьдзе адразу на дзьве дэмакратычныя культурна-асьветніцкія газэты: «Нашу Ніву» і «Наша слова» (газэта ТБМ, штотыднёвік, індэкс 63865/2, кошт на 6 мес. — 942 руб.). Тыя ж, хто прынясе (альбо дашле на адрас Сядзібы ТБМ, што ў Менску на вул. Румянцава, 13, 220005) падпісныя квіткі на абедзьве газэты, атрымаюць у якасьці прэзэнту прыстойную кніжку на беларускай мове.*

*Беларускую газэту — кожнай беларускай сям'і!*

**Сакратарыят ТБМ**

## Разам зь ліліПуціным ударым па Талібану?

*Сустрэча ў Менску чатырох цюбяцеек, адной вушанкі ды сп. Аляксандра Лукашэнкі адкрывае нашым хлопцам бліскучыя пэрспэктывы вайсковай кар'еры ў Аўганістане.*

ЖАРТ




*Малюнак Віктара Фурмана*

ПАЗЫТЫВЫ

# ЦЭЗАРАВЫ ГРОШЫ

Непазьбежнасьць выплаты падаткаў адпаведнаму цэзару была ўсьвядомленая яшчэ за часамі эвангелістаў. Закон Беларусі «Аб падаходным падатку з грамадзянаў» прыняты значна пазьней — 21.12.1991, а потым перацярпеў істотныя зьмены і трансфармаваўся ў «Закон Рэспублікі Беларусь аб падаходным падатку з фізычных асобаў».

Без адмысловай падрыхтоўкі фізычная асоба ў ім разабрацца ня ў стане. Таму Дзяржпадаткам зрабіў тлумачэньні і тлумачэньні да тлумачэньняў. Апошняе зь іх датаванае 11.05.2000 і выклікане падвышэньнем мінімальнага заробку.

У дзяржаўным друку быў зьмешчаны адмысловы пункцік зь яго. Каб ня надта блытацца ў няпэўных мінімальных заробках і шматлікіх курсах рубля, будзем рахаваць у далярах. Уявім таксама, што мы не патрапілі пад дзеяньне адной з 45 льготаў, якія прадугледжвае закон.

Калі лёс адвярнуўся ад нас, і гадавы заробак атрымаўся меншы за 600 даляраў, дык мы мусім заплаціць 9% падатку. Калі ж прыбыткі склалі ад 600 да 1500 даляраў, мы аддамо 60 і 15% ад сумы, большай за 600. У выпадку плённай працы, што прынесла ад 1500 да 2200 у.а., заплоцім 200 і 20% ад сумы, большай за 1500. Зарабіўшы ад 2200 да 2700, мусім аддаць адпаведна 320 баксаў і 25%. Ну, а калі вы надта круты беларус і маеце больш за 20 амэрыканскіх даляраў за працоўны дзень, дык ганеце 500 і 30% з кожнага грыну, заробленага звыш штодзённай двацацткі.

Але, мабыць, крутых у нас ня надта багата, бо месячны заробак аднаго сярэдняга гаротніка на ніве народнай гаспадаркі склаў за першы квартал 2000 г., паводле Мінстату, блізка 50 даляраў ЗША, а доля падаходнага падатку ў фондзе аплаты працы вагаецца між 9 і 10%.

Тымчасам мінімальны спажывецкі бюджэт сярэднестатыстычнага беларусачалавека вагаўся каля 40 USD, а пражыцьцёвы мінімум дзеля падтрыманьня электаральных здольнасьцяў гэтай істоты крыху перавышаў 25.

Пытаньне пра тое, чым жа кормяць сваіх нешматлікіх дзяцей загадкавыя тубыльцы, не хвалюе ідэолягаў беларускага экспэрымэнту. Бо інакш іх бы зьдзівілі г.зв. калгасьнікі. Напрыклад, 62% калгасьнікаў не атрымалі сваіх грошай своечасова, а запазычанасьць па зарплаце дасягнула 66% ад яе месячнага фонду. А зарплата тая на цэлы цэнт большая за пражыцьцёвы мінімум.

Але й гэта не рэкорд. У асобаў, якія мусяць розным небаракам дапамагаць (г.зн. у службе сацыяльнага забесьпячэньня) сярэдні заробак меншы за мінімум.

Таму, мабыць, славянскі народ, зь якім мы стагодзьдзямі жылі ў аднэй дзяржаве і маем шмат падобнага ў культуры і рэлігіі (г.зн. палякі) чамусьці зьбірае ў выглядзе падатку з даходаў фізычных асобаў прыкладна чвэрць прыбыткаў бюджэту і ўлез у NATO. А мы ледзьве на дзясятую частку бюджэту наскрабаем.

**Міхал Залескі**

*Наша войска яўна застояла, марна едучы народныя харчы ды нажываючы пролежні на вайсковых ложках; школьныя ваенрукі прагнуць сьвежага ваенна-патрыятычнага матэрыялу. Што ж, БПСМ мае першачарговае права і пераважную квоту на новых Герояў Аўгану. Калі БПСМ гідзіцца памешваць гной на ўдарным жывёлагадоўчым фронце, хай пакажа, на што здатны іх патрыятызм на франтох Талібану. Заўважу толькі, што дзесяціклясьнікам нашай Дуброўскай школы сказалі ўзяць з сабою на вайсковыя зборы прасьціны і наўлечкі, бо ў вайсковай частцы, куды завязуць нашых сыноў дзеля бессэнсоўнае вайсковае муштры, няма пасьцельнай бялізны.*

*Цяпер Сьветлагорскае РАА думае-варожыць, дзе ўзяць 28.000.000 рублёў, каб завязці падлеткаў у той Бабруйск. А ў сьветлагорскай школе № 11, дзе ёсьць ваенна-патрыятычны клас, зь юных ваенпатрыётаў спраўна спраўляюць тры 0,25 мінімальнага заробку двойчы на год, каб заплаціць «камандзіроўку» тром патрыятычным афіцэрам, што прыяжджаюць праводзіць тэсты зь юнымі ваенпатрыётамі: вайсковае ведамства ня мае грошай. Што ж, за фанатычны патрыятызм трэба плаціць!*

*Для выйсьця з эканамічнага крызысу нам тэрмінова патрэбныя буйныя трафэі. Мы ня можам чакаць міласьціны з Захаду (ды і ад Усходу таксама)! Узяць яе ў іх — наша задача.*

*P.S. Цікава, як у ходзе апэрацыі мы будзем называць маскалёў: старшы брат ці старэйшы?*

*А мо лепей ударыць па НАТО? Там трафэі большыя і лепшыя. Асьмелюся прапанаваць патрыятычную дактрыну: усё за межамі Беларусі — нашы трафэі, усе за межамі Беларусі — нашыя рабы. Справа за малым: пераможным анабазысам. І ўсё ж: ці не падпадае плян ліліПуціна пад крымінальны пункт аб прапагандзе вайны?*

**Мікола Бусел, бацька, Дуброва**

## Слова да «Белага Фронту»

*Калі ў маёй публікацыі «Treciaja sila u Bieraŭci» («Наша Ніва», №20) ёсьць недакладнасьці, прыношу сябрам і лідэрам «Белага Фронту» свае выбачэньні, але заўважу, што з майго паведамленьня не вынікае, што «БФ» — структурная адзінка РНЕ ці шчыльна зь ім зьнітаваная структура. Наадварот, быў зроблены акцэнт на самастойнасьць аб'яднаньня.*

*Што да прапаганды й добрага стаўленьня да беларускае мовы, дык узьнікае пытаньне — чаму ж улёткі надрукаваныя на расейскай?*

*Датычна лёзунгу «White Pride» — перапрашаю, мае зьвесткі, відаць, былі недарэчнымі, але ж гэты лёзунг узяты на ўзбраеньне сусьветнай плыньню скінгедаў, ці «БФ» да яе сябе не адносіць? (Тады навошта пісаць ува ўлётках — «организация SKINHEAD»)?*

*Пра дзейнасьць «Краю» чуваць, а пра акцыі «БФ» існуе інфармацыйны вакуум. Прапаную асьвятляць свае мерапрыемствы, напрыклад, у «НН».*

*І апошняе: ніякай спробы ўбіць клін паміж «Краем» і «БФ» не прадугледжвалася, таму зычу плёну абедзьвюм арганізацыям, калі яны на карысьць Бацькаўшчыне.*

*Жыве Беларусь!*

**А.Тылер, Берасьце**

# ЯК ЛЯЧЫЦЬ ЗАРАЗУ?

Канец вясны -- пачатак лета — час студэнцкіх сэсіяў. Ці ёсьць нешта новае ў гэтай справе? — запыталіся мы ў аднаго з студэнтаў тэхналягічнага інстытуту. І пачулі нечаканае:

-- Ёсьць. Выкладчыкі ўжо адкрыта называюць суму, якую ім трэба выплаціць за залік.

-- І колькі разоў такое было ў вашай групе?

-- У нашай пакуль адзін.

-- Колькі ж захацеў зарабіць ваш настаўнік?

-- З кожнага па тры тысячы. У групе 23 студэнты.

-- І вы ўсе аддалі?

— Аддалі, бо дысцыпліна другасная і ніхто яе як трэба не вучыў.

— Але ж такога хапугу лёгка злавіць за руку. Заява ў міліцыю, пазначаныя банкноты, суд...

— Ну, звольняць аднаго, хаця наўрад ці... А дзе гарантыя, што другі будзе не такі і ня стане помсьціць? Нам жа спачатку трэба ВНУ закончыць, дыплёмы атрымаць.

— Дык вы што, так і даруеце яму? Дурны прыклад заразьлівы!

— Не, не даруем. Але спачатку атрымаем дыплёмы. Потым і разьбярэмся. Самі, безь міліцыі.

— Гэта як? Прычакаеце ў цёмным месцы?..

Хлопец усьміхаецца і разьвітваецца.

А мы, крыху зьбянтэжаныя, задумаліся над гэтай незвычайнай сытуацыяй. Відавочна, што студэнты праваахоўным органам не давяраюць. І пачынаюць думаць пра самаабарону ад гэткага нахабства («выратаваньне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў»). І калі вы пачуеце, што нейкаму выкладчыку ВНУ хуліганы зламалі пару рабрынаў, запыніўшы ў цёмным завулку, дык, магчыма, падумаеце, што хуліганы маюць вышэйшую адукацыю, а пара зламаных рабрынаў — можа й не такая ўжо вялікая кара для злачынцы-ахвяры.

Натуральна, што мы не за самасуд. Але як лячыць хваробу, калі яна набыла ўжо такі пачварны выгляд? Ёсьць шляхі натуральныя: падвысіць прэстыж выкладчыцкай працы адпаведным заробкам, каб у небаракі-выкладчыка не зьяўлялася думкі пра неабходнасьць знайсьці дадатковыя грошы на пракорм сям'і (як бачым, нават з рызыкай для здароўя), ачысьціць праграмы ВНУ ад другасных дысцыплінаў, ня вельмі патрэбных у дадзенай прафэсіі і да т.п. Але гэта ўсё як бы «пакуль не пра нас». Што ж рабіць тут сёньня студэнту звычайнаму і ягоным бацькам? Прапануем чытачам выказаць свае меркаваньні.

**Міхась Булавацкі**



Зьмяк IREX/PROMmedia

***Транспарант на Цэнтральнай плошчы Менску засьцерагае: «Скульптурная кампазыцыя на даху будынку знаходзіцца ў аварыйным стане!» Цікава, які лёс чакае гэтыя кампазыцыі, створаныя ў 1947 годзе славутым скульптарам Сяргеем Адашкевічам? Пакуль што яны ўпрыгожваюць беларускія грашовыя купюры, тыя што раней былі па 500.000. Але час і бясконцая вібрацыя з мэтрапалітэну робяць сваю справу. Хутчэй за ўсё, гэтыя скульптуры пасыпаюцца, як з прывакзальных вежаў ці з суворадскае вучэльні. Прынамсі, ані рэстаўратараў, ані рамонтнікаў на Палацы прафсаюзаў ніхто пакуль ня бачыў.***

# У Пінску няма грошай плаціць настаўнікам адпускныя

Напрыканцы мінулага тыдня школьныя настаўнікі ў Пінску нарэшце атрымалі аванс. Пра асноўны заробак, які мусіў быць выплачаны ўжо 1 чэрвеня, у бухгальтэрыі аддзелу адукацыі нават ня згадваюць.

Аднак асноўная праблема на сёньняшні дзень — выплата настаўніцтву адпускных. Па зьвестках гарфінаддзелу — гэта больш за 500 мільёнаў рублёў. А паступленьні ў гарадзкі бюджэт за месяц складаюць прыкладна 530 мільёнаў. Такім чынам, каб адправіць настаўнікаў на вакацыі з грашыма, трэба ўвогуле адмовіцца ад фінансаваньня іншых гарадзкіх патрэбаў. Зразумела, што гарадзкое кіраўніцтва на гэта ня пойдзе. Таму старшыня гарвыканкаму разам з намесьнікамі езьдзіць па школах і пераконвае настаўнікаў пацярпець ды не рабіць ніякіх публічных выступаў, бо, маўляў, кіраўніцтва робіць усё магчымае, каб знайсьці грошы.

Аднак знайсьці грошы ў гарадзкім бюджэце будзе вельмі няпроста. Паводле статыстычных зьвестак, за чатыры месяцы бягучага году бюджэт выкананы толькі на 22 адсоткі — паказчык амаль у два разы горшы за леташні. Амаль палова гарадзкіх прадпрыемстваў — стратныя. Іхная запазычанасьць перад гарбюджэтам расьце ў геамэтрычнай прагрэсіі — за некалькі месяцаў яна падвысілася ў 8,5 разоў. Гарадзкому кіраўніцтву застаецца спадзявацца толькі на грошы зь Менску.

А тым часам у гарадзкіх школах, дзе заняткі працягнуты на тыдзень з-за працягнутых вясновых вакацыяў, ад 25 траўня адменены нават школьныя абеды, частка кошту якіх датуецца гарбюджэтам.

Ад 1-га чэрвеня зачынілася таксама значная частка дзіцячых садкоў. Плянуецца з трохчатырох пакінуць адзін садок, у які, каб ашчадзіць грошы, перавядуць дзяцей з суседніх.

Што да настаўнікаў, дык праўдападобна, што сыходзіць у адпачынак бяз грошай яны не зьбіраюцца. У гарадзкай арганізацыі вольных прафсаюзаў настаўнікаў нам паведамілі, што калі ў бліжэйшы час грошы ня будуць выплачаныя, яны ствараць страйкавы камітэт.

Пакуль жа настаўнікі Пінску накіравалі ліст Лукашэнку, у якім патрабуюць ад выканаўчай улады неадкладна зрабіць усё магчымае, каб настаўнік мог нармалёва выконваць свой асноўны абавязак — вучыць дзяцей, а не клапаціцца ўвесь час пра ўласнае выжываньне. Настаўнікі папярэджваюць, што калі гэта ня будзе выканана, яны пакідаюць за сабой права абараняць свае правы ўсімі законнымі спосабамі.

Варта адзначыць, што гэтым разам ліст да Лукашэнкі ў паштовым аддзяленні ў настаўнікаў прынялі. Бо тры тыдні таму настаўніцкую тэлеграму на адрас «Менск, Маркса, 38» пінскія сувязісты прымаць катэгарычна адмовіліся. Тады настаўнікі накіравалі ў гарадзкую пракуратуру скаргу на процізаконныя дзеяньні сувязістаў. Адказу пакуль няма.

**Аляксей Дзікавіцкі**

# ДОН ЖУАН ВЯРНУЎСЯ Ў МЕНСК

*Працяг са старонкі 1*

Прыемны вынятак з агульнага правіла — Уладзімер Пятроў, які дачакаўся-ткі свайго Дон Жуана. Здаецца, ён нарадзіўся на сьвет спэцыяльна па тое, каб сьпяваць гэтую партыю. На маё меркаваньне, такога Дон Жуана не пасаромеўся б аніводзін тэатар Эўропы. Вельмі прыстойна сьпяваў і Аляксандар Кеда (Мазача) — сьпявак, якога апошнім часам трымалі ў чорным целе, бо камусьці здавалася, што ў тэатры занадта многа басоў. Алег Гардынец (Лепарэла) «гучаў» нядрэнна, але цьмяна разумеў, пра што пяе. Прынамсі, славутая камічная «арыя зь лістом», у якой хітраваты слуга Дон Жуана распавядае зраспачонай Донне Эльвіры пра ўсе раманы свайго распуснага гаспадара, атрымалася ў Гардынца неверагодна сумнай і маркотнай. Але для гэтага была свая прычына, бо на ролю Лепарэла рыхтаваўся іншы акцёр — Васіль Кавальчук. У апошні тыдзень перад спэктаклем ён захварэў, і Гардынец быў вымушаны ратаваць спэктакаль, ахвяруючы сэнсам музыкі. Аднак — нават з усімі пралікамі і недахопамі — ягоны сьпеў яшчэ можна было слухаць.

Чаго ня скажаш пра іншых удзельнікаў спэктаклю. Аляксандар Жукаў у ролі Дона Атавія няздольны быў засьпяваць хаця б адну з найпрыгажэйшых арыяў, якія напісаў Моцарт для гэтага пэрсанажа, так што іх прыйшлося папросту выкінуць. Мо найлепшыя старонкі опэры — найчысьцейшы выраз нябеснага каханьня — аказаліся ў скрыньцы для сьмецьця. Здавалася б, ня ўмееш — не сьпявай. Але Жукаў папросту *ратаваў* тэатар, у якім няма сёньня аніводнага артыста, здольнага засьпяваць гэтую партыю. Гэта мог зрабіць вядомы ўсім Рыгор Палішчук, але яшчэ летась ён пайшоў з Опэры, ня вытрымаўшы тамтэйшай атмасфэры.

А вось навошта выходзіла на сцэну Тацяна Цівунова ў ролі Донны Эльвіры — гэтага я ўвогуле не разумею. Яшчэ ня так даўно яна была зусім нядрэннай сьпявачкай, але апошнім часам, наездзіўшыся на праслухоўваньні ў Італію і набыўшы рэпутацыю, ператварылася ў нешта безгалосае і квочнае. Дзьве арыі яна неяк засьпявала, але апошнюю — найпапулярнейшую і найпрыгажэйшую — прыйшлося выкінуць, і ўтварылася дзіўная паўза, пад час якой чутныя былі толькі крокі сьпявачкі, што адыходзіла за кулісы. Навошта было зьнеслаўляцца? Тымчасам у подзьвігах не было аніякае патрэбы: дзьве іншыя сьпявачкі, якія таксама падрыхтавалі ролю Донны Эльвіры (маладая артыстка Тацяна Кнутовіч і дасьведчаная Ірэна Журко), далі б гэтай задачы рады значна лепей. Зрэшты, Кнутовіч вельмі добра выканала партыю Донны Эльвіры пад час генэральнага прагону; прынамсі, дзеля гэтай сьпявачкі не прыйшлося б выпакласьці Моцарта.

Ня вельмі ўзрадавала мяне й афіцыйная прымадонна Беларускай опэры Вікторыя Курбацкая (Цэрліна). Я кажу «афіцыйная», бо ў радыйным інтэрвію напярэдадні прэм'еры галоўны дырыжор тэатру Аляксандар Анісімаў, які рыхтаваў музычную частку спэктакля, папросту сказаў: «Курбацкая — гэта наша прыма». Дык вось, прымадонна сьпявала фальшыва й ня надта эстэтычна, безь ніякага ўяўленьня пра сапраўдны моцартаўскі стыль. А да таго ж — правінцыйныя акторскія штучкі. На гэтым фоне Тамара Глаголева (Донна Ганна) — апошнім часам вельмі стомленая сьпяваньнем цяжкіх партыяў у опэрах Вэрдзі і Пучыні — глядзелася ня горшым чынам. Зрэшты, пад час генэральнага прагону замест Курбацкай сьпявала Тацяна Трацяк, а замест Глаголевай — маладая сьпявачка Алена Раеўская, і ўражаньне ад іхных сьпеваў было непараўнальна лепшае (што акурат і дае надзею на лепшы лёс гэтага спэктаклю).

Вось такая выйшла прэм'ера — з Дон Жуанам, але без сапраўдных кабет. Яшчэ добра, што аркестар пад кіраўніцтвам Анісімава іграў цалкам прафэсійна — хіба што ўвэртура была нудная, як жованка.

**Юлія Андрэева**

# Ды-джэй Адраджэньня: другі выпуск



Дзень 1 чэрвеня стаў выпускным для 12 новых Ды-джэяў Адраджэньня, падрыхтаваных на фірмовых маладафронтаўскіх сэмінарах на працягу трох веснавых месяцаў. На ўрачыстым сходзе МФ разам з уручэньнем імянных сэртыфікатаў і прызоў адбылося й паказальнае шоў «духовага спэцназу».

Праграма сэмінараў улучала адмысловыя тэставаньні Ды-джэяў, асновы сыстэмнае працы па ўсім спэктры інтарэсаў моладзі, азы індывідуальнае й масавае псыхалёгіі, тэхналёгіі шоў і public relations, тэле- й радыёэфэкты. Сэмінарыстам давялося прайсьці праз няспынны інтэрактыўны трэнінг, мазгавыя штурмы й выпрабаваньні ў жывой аўдыторыі — кожны зь іх мусіў арганізаваць і правесьці дыскатэку й Шоў Беларушчыны, а таксама выступіць перад поўнай заляй з падрыхтаванай прамовай. Зрэшты, галоўны фокус курсаў заключаўся нават не ў тэхналягічнай падрыхтоўцы: задачай Ды-джэяў Адраджэньня ёсьць пашырэньне нацыянальнай ідэі, спалучэньне беларускае формы з духовым, хрысьціянскім зьместам.

12 пераможцаў курсаў вызначаныя паводле асабістага рэйтынгу. Дарэчы, трэба нагадаць, што першы выпуск Ды-джэяў, што адбыўся год таму, аказаўся надзвычай пасьпяховым: палова зь іх сталі сябрамі Ўправы МФ, некалькі чалавек узначалілі грамадзкія аб'яднаньні й зрабіліся журналістамі, сярод іх і Міс МФ-99.

У сёньняшнім дэсанце пэрспэктыўных хлопцаў і дзяўчат, напэўна, ня менш. Лідэрам курсаў сталіся 17-гадовая Вольга Данішэвіч — кіраўніца маладафронтаўскае прэс-службы й 20-гадовы студэнт юрфаку ВДУ Сяржук Лісічонак, які да гэтага 6 гадоў (!) займаўся практычнай псыхалёгіяй. Сярод выпускнікоў — 15-гадовы ліцэіст Сяржук Хадаркевіч, WEB-дызайнэр Андрусь Бандаровіч, пераможца рэспубліканскай алімпіяды па гісторыі Павал Космач, шахматыст Андрусь Дзенісевіч. Лішне казаць, што кожны з Ды-джэяў валодае кампутарам, адной-двума замежнымі мовамі, займаецца асабістай творчасьцю, і, натуральна, хуткастрэльна размаўляе па-беларуску.

Апроч Ды-джэйскіх курсаў у рамках маладафронтаўскае ініцыятывы «Маладое Адраджэньне» ў менскіх школах і вучэльнях праходзяць шматлікія віктарыны й брэйн-рынгі, дыскатэкі й канцэрты.

**Прэс-служба Маладога Фронту**

## Дзе варта быць

### У Варшаве

Выстава «Новае мастацтва Беларусі» адкрылася ва Ўяздоўскім Замку польскай сталіцы. У ёй удзельнічаюць 14 мастакоў, якія працуюць у розных тэхніках і прадстаўляюць тры пакаленьні беларускага мастацтва. Сярод іх Васіль Васільеў, Вольга Сазыкіна, Артур Клінаў, Ігар Шаўчэнка, Сяргей Бабарэка, Андрэй Дурэйка, Вітальд Ляўчэня. Пачаліся ж дні беларускага мастацтва зь лекцыі Юрася Барысевіча і канцэрту «NRM» у двары замку.

### Данчык на відэа



Здымак Алеся Крышталовіча

Слыннага беларускага амэрыканца можна пабачыць на гэтым тыдні ў Беларускім відэаклюбе (Румянцава, 13). Праўда, не на сваe вочы, а на відэа. У суботу 10 чэрвеня а 17 гадзіне паказваюць відэазапісы канцэртаў Данчыка 1989 і 1997 гадоў.

### Танчаць «Чараўніцы»

У канцэртнай залі Філярмоніі 10 чэрвеня а 19 гадзіне выступае эстрадна-харэаграфічны ансамбаль «Чараўніцы» пад кіраўніцтвам Раісы Красоўскай. За музычнае афармленьне адказвае акадэмічны сымфанічны аркестар Беларусі, якім дырыгуе Генадзь Праваторaў. Гучыць музыка Штраўса, Радрыга, Равэля, Рымскага-Корсакава, Шчадрына.

### Польскія спэцслужбы

Тое, што прафэсійна працаваць могуць ня толькі прадстаўнікі такіх вядомых спэцслужбаў, як Масад, ФБР ды КГБ, даказалі палякі. Так, на пачатку дзевяностых польская сакрэтная служба зьдзейсьніла пасьпяховую апэрацыю выратаваньня закладнікаў, якіх захапілі тэрарысты на Бліжнім Усходзе. Палякі нават зьнялі пра тыя драматычныя падзеі фільм «Апэрацыя Самум» (1999 год, рэжысэр Уладзіслаў Пасікоўскі). Фільм сапраўды добры — моцныя акторы, здымкі ў тых самых мясьцінах, дзе праводзілася спэцапэрацыя, цікавы сюжэт ды шаманскія сьпевы Горана Брэгавіча. Паказваюць стужку 12 чэрвеня ў памяшканьні філфаку БДУ, аўдыторыя 113. Пачатак сэансу а сёмай вечара. Фільм ідзе па-польску.

**Алесь Кудрыцкі**

### Спэктакаль паводле Гарэцкага

Чарговую прэм'еру прадставіў народны тэатар пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча культуры Беларусі Валянціна Ермаловіча. Гэты тэатар вядомы тым, што за кароткі час існаваньня, менш за 10 гадоў, спазнаў ужо і посьпех у публікі, і ўладныя забароны. Тэатар дэманструе сваю прыхільнасьць да беларускай літаратурнай клясыкі. На гэты раз ён пацешыў гледачоў спэктаклем «Жартаўлівы Пісарэвіч» паводле твору Максіма Гарэцкага. Прысутнічаў на прэм'еры і пляменьнік Максіма акадэмік Радзім Гарэцкі. Сцэнічная дзея неадночы перакрывалася глядацкімі воплескамі, а завершыўся спектакль моцным «Жыве Беларусь!»

**Сымон Глазштэйн, Магілёў**

## МОВА




*У гэткім сталым веку і сапраўды можна забыцца, на якой мове размаўляеш.*

**В.Васілёнак**

## БТ вачыма беларуса

# ПРАВАЛ І «МАФІЯ»

Так і не зразумела, з чаго «Хрусталёў і кампанія» шум падымалі вакол «крутых новых праектаў». Ну няўжо сам Ягор, разумны ж чалавек маладога веку, лічыць гэтыя праграмы сапраўды новымі ды вартымі пільнае ўвагі? Ці хаця б прафэсійнымі?! Катэгарычна няма чаго глядзець! Больш талковая (адносна) «Адысэя...» і тая далёка не дацягвае да сучаснага ўзроўню ані шоў-, ані проста гульнявых праграмаў. Нельга ж апраўдваць беднасьцю! А што ўжо казаць пра астатнія...

«Будні» «прадпрымальніцкія» былі, безумоўна, трохі лепшыя, чым «футбольныя», але ж усё роўна гэта не сур'ёзнае ток-шоў з вострымі пытаньнямі. На пачатку вядучыя даволі выразна ўсталі па розныя бакі праблемы, але ў цягу перадачы былі так заблыталіся, хто «за каго». І абяцаны «супэрвостры» ды незалежны Кузін ні кроплі не паходзіў на свой разрэклямаваны імідж. А перадачу на тэму Нямігскай трагедыі, якая сапраўды атрымалася дастаткова вострай, як гаворыцца, цяжка было сапсаваць. Што аўтары й не зрабілі, дзякуй Богу. Далі выказацца бацькам, сьведкам, а розныя афіцыйныя асобы ўпарта навешвалі ўсім на вушы пра найсумленныя й нават гераічскія паводзіны свае ды падначаленых... Усё было зразумела, аўтарамі «не сапсавана» — але й ня больш за тое.

А вось анічога не было зразумела ў праграме «Судьба человека» (чамусьці падкрэсьлена, нават у шапцы, расейскамоўнай). Здавалася б, наперад вядома, пра што будзе цыкль перадачаў — пра цікавыя лёсы розных людзей — а перад гледачамі раптам пачынаюць працягла разважаць пра магчымасьць бескарысьлівай дапамогі. Потым саджаюць у студыю нейкага спадара й гэтак таямніча кажуць, што паехаў ён раз па працы, а вярнуўся празь месяц. Ну й што такога, тым больш што езьдзіў ён у Астрахань?! А вядучыя тут пачынаюць распытваць дзядзьку, ці верыць ён у прыкметы... Калі ў слухача галава канчаткова пухне ад спробаў уразумець, што тут з чым як зьвязана — патроху сытуацыя пачынае тлумачыцца. Прычым самае галоўнае неяк пралятае незаўважна, затое навалам пытаньняў зусім не пра бескарысьлівасьць і тым больш не пра лёс чалавека. І ўсё гэта ў атачэньні галасаваньня ў студыі (прамога!) — ці здольны вы дапамагчы за проста так? Уяўляю, як чалавек перад суседзямі і камэрамі кажа: «Не, да вы што, я ніяк таго не магу!»... А ў фінале — паўторнае галасаваньне. А раптам хто перадумаў?! Маразм! Прычым вынікаў «галасаваньня» й ня думалі абвяшчаць.

Правал прэм'ераў адзначаюць паўсюдна, хоць і з рознай сілай крытыкі. Але што сымптаматычна — гэтак жа паўсюдна, ад, здавалася б, салідная БДГ да «салідная» «Саўбеліі», усхваляюць «Будні» ды асабіста Кузіна. Ну такая ўжо цікавая праграма чамусьці, аж моцы няма (ня тое што злы «Глас народу» НТВ — пэрл ад «СВ»). А Кузін такі разумны, такі іранічны, такі сымфанічны, і ўвогуле — дарогу ды-джэям! Мда..., эмблемай «Альфа-радыё» мусіць стаць не пінгвін, а спрут. З наварускай «распальцоўкай» на кожным шчупальцы.

**Арцём Лук'яновіч**

# Прапала лінія фронту



*Працяг са старонкі 1*

У той самы дзень у Інгушэціі, у Самашкінскім лесе, ізноў была абстраляная аўтакалёна расейцаў. Партызанаў гэтым разам не знайшлі. Нават калі зрабіць карэкцыю на расейскую прапаганду, даводзіцца канстатаваць, што вайна, як ракавая пухліна, толькі распаўзаецца па Каўказе. Калі падлічыць колькасьць нібыта забітых паўстанцаў, дадаць да іх палонных, дык усё адно атрымліваецца, што яшчэ больш за дзьве трацінны чачэнскага войска ацалела разам са сваім галоўным камандаваньнем. Іх няма ў шматкроць прачасаных і «зачышчаных» расейцамі населеных пунктах. Дзе ж яно, чачэнскае войска? Цяпер — за сьпінаю ў акупантаў. Лінія фронту прапала. І сьмерць можа чакаць расейцаў ды іх памагатых паўсюль. Замах на мэра Грознага й гібель намесьніка прадстаўніка расейскага ўраду Зьверава і памочніцы грозьненскага мэра таму пацьверджаньнем. І гэта не ў лясох ці горах, а ў самым цэнтры «вызваленай» сталіцы Ічкерыі!

Нагадаю, што начальнік расейскага Генштабу Квашнін 2 чэрвеня заявіў, што вайсковая апэрацыя супраць чачэнцаў закончаная. У той жа дзень чачэнскія байцы падбілі расейскі гелікоптэр Мі-8.

Калі Квашнін агучыў палітычны курс цяперашняга кіраўніцтва Расеі, дык гэта можа азначаць, што неўзабаве пачнуцца мірныя перамовы, на якіх ад пачатку настойваў прэзыдэнт Ічкерыі генэрал Аслан Масхадаў. Гэта ўскосна пацьвердзіў і расейскі прэм'ер Касьянаў, які днямі заявіў, што менавіта палітычнае ўрэгуляваньне ёсьць цяпер для расейцаў «абсалютна прыярытэтным», і кіраўніцтва Расеі ўжо выпрацоўвае плян маштабнага ўрэгуляваньня крызысу ў рэгіёне. Калі не, і словы расейскага штабіста — звычайнае выхваленьне, а словы прэм'ера хлусьня, тады вайна будзе забіраць усё новыя й новыя ахвяры, а тэрыторыя вайны бяз фронту расьцягнецца ад Каспія да Чорнага мора.

**Гары Куманецкі**

Фіджы

# ПАПІЎШЫ КАВЫ...



З 19 траўня ў гэтай краіне, што ў самым сэрцы Палінэзіі, пасярод Ціхага акіяну, няма спакою. Буйны фіджыйскі бізнэсмэн, палінэзійскі нацыяналіст Джорж Спэйт разам з сябрамі захапілі прэм'ер-міністра краіны й тузін міністраў ды драбнейшае чынавенства. Ён запатрабаваў увядзеньня новае канстытуцыі, якая павінна адлюстраваць «прынцып нацыянальнае справядлівасьці». Пакуль Спэйт утрымлівае буйное чынавенства ў закладніках, улада ў краіне перайшла да вайскоўцаў. Вайсковы пераварот ачоліў гэнэрал Фрэнк Байнімарама. Ён, у сваю чаргу, заявіў, што хоча кіраваць краінаю сам гады тры, пакуль ня будзе прынятая справядлівая канстытуцыя. Вайскоўцы прыбралі да рук усё жыцьцё на Фіджы...

Сутнасьць канфлікту трэба шукаць у далёкім мінулым, калі высьпы Фіджы былі заваяваныя ангельскімі каланізатарамі. Вяўнічыя фіджыйцы не паддаваліся прыгону. Для працы на багатых высьпах ангельцы пачалі завозіць індусаў з далёкай паўгалоднай Індыі. Зь цягам часу колькасьць нашчадкаў прыгонных індусаў, што ўраблялі шыкоўныя тутэйшыя плянтацыі, моцна павялічылася. Сёньня яны складаюць блізу 40 працэнтаў насельніцтва краіны. У недалёкай гісторыі краіны ўжо быў пэрыяд, цягам 13 гадоў, калі за палінэзійцамі было замацаванае выключнае права на палітычнае жыцьцё. Аднак пад націскам сусьветнае супольнасьці, палінэзійскія нацыяналісты вымушаныя былі саступіць. І вось вынік — прэм'ер-міністрам стаў індус Махендру Чодры, які панабіраў міністраў ды чыноўнікамі сваіх супляменьнікаў. Ці маглі гэта сьцярпець гарачыя фіджыйскія патрыёты?

Цяпер з умовамі лідэра нацыяналістаў пагадзіліся й прэзыдэнт, які ўжо зьняў зь сябе паўнамоцтвы, і Вярхоўны Савет (правадыроў тутэйшых карэнных плямёнаў). Адно, нечакана ўзьнікла фігура генэрала Байнімарама (палінэзійца), які таксама захацеў для сябе кавалак уладнага пірага. Але крумкач крумкачу вока ня выдзяўбе. Спэйт з Байнімарамам абмяркоўваюць цяпер будучыню краіны... за чарачкай *кавы. Каваю* на Фіджы называюць гарэлку з карэньняў дзікага перцу.

Горкі прыклад Фіджы сьведчыць пра дзьве рэчы — ніколі ня будзе спакою тым, хто быў на баку акупантаў. І няма большага глупства, як сьведа саджаць у кіраўніцтва краіны прадстаўнікоў меншасьці. Каляніялізм насамрэч пакідае па сабе багата шнараў, больш, чым гэта нам часамі здаецца.

Ну, а фіджыйцы, яны, бадай, супакояцца. Жыцьцё неўзабаве вернецца ў нармальнае рэчышча. Пап'юць сваёй, фіджыйскае *кавы*, ды паміранца. Бо, перадусім, і палінэзійцы, і індусы хочуць жыць заможна ў сваёй, амаль райскай краіне.

**S.H.**

Дзядзька Антось у Маскве

# КРОК У БЕЗДАНЬ У «КРАІНЕ, ДЗЕ ЎСЁ РЭАЛЬНА»



Дарагі дружа, прабач, што табе давялося чакаць, пакуль ня скончыўся мой працоўны тыдзень. Я разумею, што проста сядзець дома некалькі дзён — гэта непрыемна, але...

Вось жа сёньня, у выходны, прапаную табе файны маскоўскі мужчынскі адпачынак. Не, у начны клюб мы пойдзем іншым разам. Сёньня мы паедзем на лётнае поле. Навошта? Пазьней усё растлумачу, але адразу магу запэўніць — не пашкадуеш! Трэба толькі ўзяць з сабою нешта паесьці і вопратку, якую не шкада трохі запэцкаць.

Вось мы і на Рыскім вакзале, набываем квіткі да Валакаламску, дзе знаходзіцца сакрэтная вайсковая база (гэта, канечне, жарт). Праз некалькі гадзін на лётным полі нас ужо сустракае мой знаёмы інструктар парашутнага спорту! Вось мой сюрпрыз!

Няўжо ты ня рады?! А неяк жа казаў, што вось калі б была магчымасьць паспрабаваць нечага экстрэмальнага, напрыклад, з парашутам сігануць... Не, браце, словы свае назад ужо позна браць — вось яна — тая самая магчымасьць! Ну, пачалося: «Я не магу, я ня ўмею...» Зараз цябе вывучаць неабходнаму мінімуму парашутыста, а калі потым не захочаш выйсьці з самалёту, дык і дапамогуць!

Што ж, ты ўжо ведаеш, як выглядае парашут, як яго надзяваюць, як трэба выходзіць з самалёту, што рабіць у палёце, як кіраваць парашутам, навошта «запаска» і як ёй карыстацца, і — галоўнае, як прызямліцца так, каб не паламаць сабе ногі. Усё гэта адбылося за гадзіну. Тэорыя скончылася, хаця... Ці ня трэба расказаць пра пару няшчасных выпадкаў, каб дадаць адрэналіну... А, бачу, што ў цябе яго ўжо хапае. Нічога, я яшчэ не сустракаў нікога, хто б на першы скачок ішоў «як у бой».

Адрэналін і мандраж адначасова — гэта вельмі прыемна!

Нам дапамаглі апрануцца, разьмясьціў ў залежнасьці ад вагі. Трохі непрыемна, ведаю — «сыстэма» (падвеска) ня вельмі зручная рэч, каб у ёй хадзіць па зямлі — яна ж не для гэтага, дый парашут важыць ажно 20 кг. Доўгачаканы момант — пагрузка ў самалёт. Самалёт — АН-2, узору 1949 г. (дарэчы, выпуску — такама!) з рухавіком ад вайсковага Ла-7. Ты сумняваесься, што ён увогуле зварухнецца зь месца, ня тое што ўзьляціць? А дарма. Пахрохкваючы, наш «Кукурузьнік» паволі пачынае свой разьбег. Твары ўсіх напоўніліся трывожным чаканьнем, сьмех ператвараецца ў гістэрычны, усьмешка «для фота» стала, напэўна, самай ідыёцкай за ўсё жыцьцё. Ну, нічога — пазьней (але яшчэ не ў наступны раз!) будзе лягчэй.

Пакуль мы так спрабавалі разважаць, бо з-за рухавіка і каскі гэта даволі цяжка, наш самалёт набраў патрэбную вышыню ў 600 м. Хутка мы ўжо пачнем даваць кругі над «кропкай» — месцам, адкуль па тры-чатыры чалавекі нас пачнуць выпускаць з самалёту. Знаёмая сырэна — сыгнал таго, што трэба падрыхтавацца. Інструктар адчыняе дзьверы, і ў салён залятае вецер — за бортам 140 км/г. Яшчэ сырэна — першыя чацьвёра становяцца ў чаргу, адзін ужо заняў сваё месца ля выхаду і, гледзячы інструктару ў вочы, чакае слова-каманды-крыку «Пайшоў!» Дачакаўся. Лёгкі штуршок, і, адпіхнуўшыся нагою ад борту, чалавек зьнік! А за ім хуценька зьніклі астатнія. Іх паглынула глыбокае, бяздоннае і неабсяжнае неба.

А мы паляцелі далей — на другі заход, які для нас з табою сёньня будзе апошнім. Інструктар выбірае фалы з чахламі ад парашутаў і зачыняе дзьверы. Усё паўтараецца зноў — сырэна і г.д., толькі цяпер перад люкам стаім мы. Позірк уніз — на геаграфічную карту, што пад намі — і зноў на інструктара. Візуальны кантакт, калі сігаеш з прымусовым раскрыцьцём парашута Д1-5-У (дэсантны, кіраваны), проста неабходны. «Пайшоў!», штуршок. І вось мы ўжо сталі часьцінкаю неба. Гледзячы на інструктара і самалёт, якія хутка аддаляюцца, чакаеш, пакуль раскрыецца парашут. Хаця «чакаеш» — ня той выраз для першага разу — усё настолькі хутка, што нічога не пасьпяваеш заўважыць, пакуль проста ляціш у бездань.

Прыемны хлапок — вісіш у сыстэме — у галаве эўфарыя, «запаска» не спатрэбілася, хаця гэта яшчэ пытаньне. Не, купал раскрыўся нармалёва і працуе файна. Цяпер можна трошкі адпачыць і пагуляцца, ў межах разумнага, канечне, каб не паляцець куды-небудзь у лес з гэтым файным ветразем, пахістацца трохі на гэтых незвычайных арэлях. Але не пасьпееш нагуляцца, як ужо трэба рыхтавацца да вяртаньня на «грэшную зямлю». Ёсьць некалькі варыянтаў, але, хутчэй за ўсё, першая пасадка мяккаю ня будзе — зямля, як высьвятляецца, даволі цьвёрдая.

Сустрэча пасьля пасадкі. Нас падабрала спэцыяльная машына («трупавозка»). А ты, я бачу, не пасьпеў пагасіць купал — вопратка ўся ў траве, працягнула цябе па полі. Але ў гэтым таксама ёсьць кайф. Ну што ж, усе жывыя, трохі падрапаныя, але вясёлыя й поўныя новых уражаньняў. Пачынаецца звыклае — хто што адчуваў, як ляцеў. Можна, вядома, абмежавацца адным словам — эўфарыя! Але ж ты разумееш, што гэтага замала. Дома, заўтра ты зразумееш, што я падбіў цябе на жудаснае глупства, непатрэбную рызыку, але будзеш упэўнены, што гэта таго каштавала.

Твой погляд на жыцьцё трохі зьменіцца, ня кажучы ўжо пра просты позірк у неба. Неба, якое з гэтага моманту стала для цябе значна большым, чым ранейшае неба. Ты прачніў таямніцу яго неабсяжнасьці і глыбіні, зьведаў вольную волю і глынуў зь яго кубку.

Гэта наркотык, але не атрута, хутка пачнецца ломка, будзе неабходная чарговая «доза». Віншую, заўтра ты станеш парашутыстам, а сёньня ў цябе сапраўдны Дзень нараджэньня!

Хаця, трапляюцца й такія, для каго аднаго разу досыць — з розных прычынаў, але большасьць проста ня можа больш супрацьстаяць магіі Неба. Віншую!

**Дзядзька Антось**

# ШАБАШ ВЕДЗЬМАЎ НА

## *Пабочны прадукт камуністычнай прапаганды*



*Калі верыць даведцы часопіса «Вожык», ананімная паэма пра Лысую гару зьявілася на сьвет і пачала перадавацца з рук у рукі 25 гадоў таму. Унікальны твор позьняга савецкага часу дагэтуль ахутаны цэлай хмараю таямніцаў. Няхай сабе мы ня ведаем і ніколі не дазнаемся імя аўтара. Верагодна, ён быў калектыўны, верагодна таксама, што іх было некалькі. Але ёсьць яшчэ й таямніца паходжаньня і фэномэн літаратурнага лёсу. Паэма, у якой няма ані кроплі антысавеччыны ці хоць бы нонканфармізму, перадавалася з рук у рукі нароўні з машынапісным «Майстрам і Маргарытай» ці фотакопіямі філязофскага эсэ Ігната Абдзіраловіча «Адвечным шляхам» — творамі, якія за савецкім часам зусім не ўхваляліся, дзякуючы іхнаму зьместу. Бяскрыўдны «Сказ пра Лысую гару» патрапіў у гэтую самвыдавецкую плынь.*

*Зрэшты, за тымі наіўнымі жарцікамі хавалася нешта зусім не бяскрыўднае — сымболіка вядзьмарскага шабашу, на які зьляталіся лысыя чарты. Зьвярніце ўвагу на тое, чым звычайна займаліся нячысьцікі падчас свайго шабашу і ў чым уласна іхны шабаш заключаўся, дзеля чаго ўласна яны зьбіраліся на тую Лысую гару. А зьбіраліся яны — рагатаць. Яны рагаталі, гагаталі, якаталі, дохлі са сьмеху — беспрычыннага, дурнаватага і, трэба думаць, па-свойму выверанага.*

*Пасьля таго, як побач з Лысай гарой у Беларусі перастала існаваць гара Сьвятая, якую переназвалі ў гару Дзяржынскага, зьнік у краіне балянс дабра і зла. Чартаўшчына разьлілася навокал. Верагодна, гэта была савецкая ідэалёгія, дзе элемэнтарныя чалавечыя каштоўнасьці ставіліся з ног на галаву. І ў полі гэтае ідэалёгіі, зусім не насупераж ёй, учынялася рагатуха — пісьменьніцкія жарты на Лысай гары, адлюстраваныя ў ананімнай паэме.*

*Між іншым, і імя аўтара — Вядзьмак Лысагорскі — лішні раз сьведчыць пра тое, што ства-*

# ЛЫСАЯ ГАРА

Ува ўсіх народаў арыйскага паходжаньня, ад Ірану да Скандынавіі, ёсьць свае «лысыя горы». Іх назва трывала зьвязваецца з рознай чартаўшчынаю. Менавіта на гэтых гарах гойсаюць бесы й колькі разоў на год зьбіраюцца ведзьмы на свае шабашы. У Швэцыі — гэта Блакула, у Гішпаніі — Бараон, у Літве — Шатрыя пад Шаўлямі, у Італіі — Сьпінато й Патэрна, у немцаў з аўстрыякамі іх цэлая плойма — Блёксбэрг, Хорсэльбэрг, Бэхтельбэрг ды шмат іншых. Тое самае і ў славянаў. Ёсьць гэткая Лысая гара блізу Кіева, ёсьць каля Львова, ёсьць у Карпатах ля Закапанага. У польскіх Сьвятакрыскіх гарах іх нават дзьве. Адну перайменавалі ў гару Сьвятой Кацярыны, а другая засталася Лысіцай.

Расейскі гісторык XIX стагодзьдзя Хадоўскі налічыў больш за пятнаццаць гор з гэткай назвай у славянскіх краёх. Ён піша: «Лысыя горы, на якія зьбіраюцца баба-Яга зь нячыстымі духамі, зь ведунамі й ведзьмамі — месцы абавязкова прыгожыя. І шабашы творацца тут у чыстае бязвоблачнае надвор'е».

Што ж такое ведзьмін шабаш? Паводле эўрапейскіх традыцыяў, ведзьмы зь ведзьмакамі адпраўляюцца на шабаш вярхом на мятле ці на кіях. Яны выходзяць уначы на ростань. Каля тае ростані раскрываецца страшная пячора. Нячысьцікі станавіліся перад ёю й тройчы гукалі шатана, каб ён забраў іх на Лысую гару. Шатан зьяўляўся на покліч сваіх прыхільнікаў, апранёны ў шэры каптан, чырвоныя штаны й востраверхі капялюх. І барада ў яго вялікая, рудая... Ён падхопліваў сваіх гасьцей і яны небам адпраўляліся на баляваньне. На Лысую гару. Шатану дапамагае натоўп чартоў. Усе чарты набываюць выгляд казлоў, верхам на якіх і лятуць усе ахвочыя на шабаш. Многія ведзьмаркі прыводзяць з сабою дзяцей. Асаблівай была й пачостка на гары. Абавязковыя стравы: капуста з салам, аўсяная каша, масла, сыр ды малако. Зрэшты, што тут дзіўнага? Адсутнасьць алькаголю! Так.... паелі, папілі, парагаталі ды й разьляцеліся.

Мніх, тэоляг й гісторык Дэль Рыа у 1611 годзе пісаў: «Найперш там творацца скокі й вусьцішны рогат, пасьля сядаюць за стол».

Галоўны шабаш у Беларусі адбываўся на Лысай Гары на Купальле, а ў заходняй Эўропе — у ноч на Сьятога Вальпурга.

Чаму гара менавіта Лысая? Ці не ад *чорта лысага*? Ва ўсёй іранскай, юдэйскай, хрысьціянскай і мусульманскай дэманалёгіі чарты й сапраўды лысыя. Лысіна ў большасьці старажытных народаў адназначна нэгатыўная прыкмета. Ня дзіва — ранейшая працягласьць жыцьця была ў палову цяперашняй. А лысіна ў гадоў 30 — паталёгія. Як кажуць у народзе — ад чужых падушак. Глядзі, і рогі вылезуць. Але гэтыя горы зусім неабавязкова голыя. Некаторыя пакрытыя дрымучым лесам, іншыя — голым скальным каменьнем і нічым не адрозьніваюцца ад суседніх. Падказку дае рымская назва гэткіх гор. У латыні іх завуць *Calvus monts*, альбо гара чэрапу. Дарэчы, менавіта адсюль этымалягічна вынікае й *Кальварыя*. Месца сьмерці. Менавіта на колішніх мясцовых Лысых горах і паўставалі пазьнейшыя каталіцкія Кальварыі — у Менску, у Вільні, у Жыровіцах і далей.

Цікава, што ў кожным краі побач з Лысай гарою ёсьць месцы чыстыя — горы Сьвятыя. Яны абавязкова складаюць пару. Як дабро й зло, цемрадзь і прасьветленьне. Сьвятая гара абавязкова вышэйшая. Хоць крыху. Гэткія месцы абіралі для сьвяцілішчаў. Але з 1958 году нашая Сьвятая гара, зусім недалёкая ад Лысай, была перайменаваная ў Дзяржынскую.

**Сяргей Харэўскі**



# БЫЛІ МАЛАДЫМІ...

Я ніяк не магу ўзгадаць, якім чынам на маёй паліцы апынулася гэтая брашура. Дакладней, што прымусіла мяне набыць чацьверты нумар бібліятэкі часопіса «Вожык» за 1991 год. Назва твору мне тады ні пра што не казала. Вялікім аматарам вожыкаўскіх прыколаў я ня быў. Можа быць, увагу прыцягнула загадкавае імя аўтара? Ня памятаю. Недзе год кніжка некранутаю пылілася на паліцы, пакуль аднойчы я не пачуў у радыё, што «Сказ пра Лысую гару» — рэч ня толькі геніяльная, але й самая вялікая загадка сучаснай беларускай літаратуры.

Легендарную паэму я прачытаў за гадзіну. Пачатак інтрыгаваў.

«Наш век – наогул вельмі тлумны,
мы з гэтым звыкліся даўно:
футбол, і бокс, і джаз бяздумны,
і п'янкі з сэксам заадно».

Але далей я разумеў усё меней. Я не зразумеў гумару, не зразумеў намёкаў на невядомых мне людзей. Чытаньне нагадвала прысутнасьць на чужым капусьніку, дзе ўсе адзін аднаго ведаюць, адзін аднаго пацьвельваюць, адзін з аднаго рагочуць, а ты вымушаны сядзець дурнем і ветліва рабіць выгляд, што ты таксама «ў курсе» й табе таксама вельмі сьмешна. Я не зразумеў, навошта аўтару гэтых тысячы пяціста трыццаці сямі радкоў трэба было хавацца за псэўданімам? У той час, той век, тую эпоху ў суседняй Расеі цалкам адкрыта пісаліся й сьпяваліся зусім антысавецкія творы, за якія іхныя аўтары расплочваліся загубленай кар'ерай і здароўем. Ну, не дзеля гэтых жа радочкаў трэба было канспіравацца:

*«Яны даўно былі гатовы*
*ажыцьцявіць «сьвяты» парыў –*
*ліквідаваць дашчэнту мову,*
*якой Купала гаварыў.*
*Калі б іх партыя хоць зрэдку*
*не асаджала пугаём –*
*дык без указу, без дэкрэту,*
*глынулі б бедную жыўём!»*

Але самай вялікай загадкай быў наклад тае кніжачкі. Сто тысячаў пяцьдзясят сем асобнікаў. Зь якіх ніводзін не затрымаўся ў кнігарнях і шапіках. Нават у букіністаў я не заўважаў гэтай кніжачкі. Прычым выданьне было паўторнае. Аб такім камэрцыйным посьпеху можа марыць любы пісьменьнік. І ці ня лепшы гэта быў доказ жыцьця «мовы, якой Купала гаварыў»?

Зь цікавасьці я вырашыў адшукаць на мапе тую Лысую гару. Яна аказалася другой беларускай кропкай па вышыні пасьля Сьвятой. Калісьці гэтыя горы падзяляла савецка-польская мяжа. Сьвятая ляжала ў Заходняй Беларусі, а Лысая — ва Ўсходняй. Нейк, праяжджаючы паўз яе, я вырашыў заехаць у аднайменную вёску. Высьветлілася, што гэта зусім ня тая Лысая гара. Гэта яшчэ болей разьвярэдзіла маю цікавасьць да загадкавага твору зь невядомымі мне пэрсанажамі.

Мне вельмі пашчасьціла з праваднікам. Быць маім экскурсаводам на Лысай гары ласкава згадзіўся Гаральд Вольскі, які першы пабудаваў тут хату й многія гады быў старшынём дачнага пісьменьніцкага кааперэтыву. Мы блукалі па мясьцінах, так падрабязна апісаных у паэме, і цытавалі найбольш цікавыя кавалкі. Той век, той час, тая эпоха пакрысе пачыналі матэрыялізоўвацца ў вельмі стракатым краявідзе рознакаляровых дамкоў, па-над якімі панавала самая сапраўдная, ня лысая, а шчыльна парослая лесам гара. Гаральд Вольскі казаў:

*— «Адзін празаік, — маецца на ўвазе паэт Кірэенка, вось яго дачка якраз, — меў удачу: купіць гаўна ён бочку змог. Прыпёр упоцемку на дачу і начапіў цяжкі замок. Тады, на сорам Чалавеку, — ад слаўных буднаў убаку – і ўзьнік ганебны лёзунг веку: «Гаўно трымайце на замку!» А як было... Я, Звонак і Няхай шашлыкоў наеліся й пайшлі гуляць. Глядзім — тут Кастусь Кірэенка нешта майструе. Падыйшлі бліжэй – ён там дзюркі на бочцы робіць і скабу, каб замок павесіць. Аказваецца, гэта ён прывез бочку курынага памёту, і каб не сьцягнулі, прычапіў гэты цяжкі замок. Так што гэта меўся на ўвазе не празаік, а паэт Кірэенка...*

*Навуменка рабіў дачу. Ён некалькіх хлопцаў, радню прывалок, лесапілку паставілі і рабілі вось гэтую дачу. Івану Навуменку. «Ды ўсе прафэсары й дацэнты перад Навуменкам адным – былі, як дробязныя цэнты перад далярам залатым. Другі маштаб – другая марка: калі яму стаўлялі дом – тры дні вішчэла цыркулярка, чатыры дні зьвінела чарка і кожны дзень вялася сварка, — былі Гамора і Садом». Шкада яго – у яго жонка нядаўна памерла.*

*«У зьвязку з гэтаю праблемай, якой жылі гаспадары, дыскусій шмат было й палемік на схілах Лысае гары. – Абы дзярмо, аднойчы ўвечар сказаў Няхай і тут жа скіс. Але паэту запярэчыў, —*



*іхная хата якраз насупраць, — празаік Сачанка Барыс: Ну, не кажыце: гной ня роўны. Найлепшы той, што зробіш сам. Бо ён жа твой, уласны, кроўны, як твор, які ты напісаў. Мне гной уласны найдарожшы за ўсякі куплены другі, хоць, пэўна добры гной у Прокшы, і ў Лукшы, мабыць, неблагі».*

*Наконт «Байканура». Мы гэты ўчастак звалі «Байканур». Таму, што Сіла Гусеў паставіў «шпакоўню», туалет маецца на ўвазе. А даху не было, дык ён зь нейкага дому ўзяў каўпак такі выцягнуты. А каб вада ня йшла, дык яшчэ зрабіў наканечнік, як у ракеты. «Ён форму ўзяў для туалета – што аж зайздросна паглядзець: як ёсьць, касьмічная ракета, вось-вось гатовая ўзьляцець! І гэтай формы сэнс быў ясны: Заходзь, садзіся і ўключай! Ну, а ці быў там зьмест сучасны – ты ўжо, чытач, мне выбачай...» Але яе ўжо няма... Сіланці Гусеў... Ён жа «аўроравец». Штурмаваў Зімні. Ён расказваў, што ніякага штурму не было. Чырвонагвардзейцы падыйшлі да жаночага батальёна, прапанову зрабілі, тыя й разьбегліся. Мой бацька таксама прымаў удзел у гэтым. Так што ўсё гэта казкі.*

*Ёсьць там недзе тэкст наконт Арочкі... «За ім усьлед маўчун Арочка падважваў плашкі пакрысе. О, як ён важна, без сарочкі, выглёндваў з кульбай на страсе!» – Ён тут не жыве. У яго сын адзін загінуў, другі. Нявестку забілі й сыноў забілі. Дык ён у вёсцы жыве цяпер. Шкада, шкада...*

*«Таму Валоўшчынская крама амаль заўжды была пустой: пітва ніякага ні грама – хоць трупам ляж, хоць слупам стой!» Гэта была такая крама каля фэрмы, і фэрма ўжо развалёная. У краме той гарэлка была, хлеб быў. А пасьля зачынілі яе, не вазілі нічога. «Дык у сяле не без прычыны*

# ЛЫСАЙ ГАРЫ



*ральнікі ананімнай паэмы разумелі той кантэкст, у якім стваралі свой капусьнік. Менавіта пісьменьніцкую брацію яны параўноўвалі з кагортай вадзянікоў, лесавікоў ды ўсялякіх іншых чартоў, што сабраліся на свой шабаш. Але вынік бяскрыўднага рагатаньня аказаўся іншы, ня той, на які маглі разьлічваць аўтары.*

*Памятаю, у 1975 годзе я пераздымаў на гаўбцы машынапіс «Сказу пра Лысую гару», які літаральна на гадзіну прынес мне сябра. Трэба было тэрмінова зрабіць копіі. Тады мы шмат чаго пераздымалі, і пра гэта можна было б ня згадваць, калі б не адна дэталь. Той машынапіс калега ўзяў у сваёй маці, якая, у сваю чаргу, прынесла яго адтуль, дзе працавала — з ЦК КПБ. Верагодна, з нэтраў менавіта гэтай арганізацыі Лысагорскі шабаш атрымаў пашырэньне. Менавіта цэкоўскія машыністкі пладзілі дзясяткі копіяў «Лысае гары».*

*Калі ўлічыць сутнасьць савецкае ідэалягічнае ўстановы і тое, што ў ананімнай паэме няма ані слова праўды пра савецкую ідэалёгію, тады можна пачуць гэты беспрычынны і ідэалягічна выверany рогат падчас шабашу на Лысай гары. Пісьменьніцкі капусьнік ня быў выдадзены тады, калі быў напісаны, таму што прыдаўся для службовага карыстаньня ведзьмакоў ды вядзьмарак з ідэалягічных аддзелаў камуністычнага ЦК. Гэта, натуральна, не касуе ягонае вартасьці, як дакумэнту свайго часу.*

Сяргей Паўлоўскі

*бурчэлі злосна мужыкі: «Ці не адпэндзіць нам, мужчыны, адсюль пісьменьнікаў такіх?»*

Я разьвітаўся са старым Гаральдам і працягнуў сваю вандроўку па Лысай гары самастойна. Быў сьпякотны й яркі, амаль летні дзень. Які так не гарманізаваў з маўклівымі дамамі-дэкарацыямі «тае эпохі», дзе некалі адбываліся шумныя анэкдатычныя лысагорскія сваркі, п'янкі й гулянкі, сёньня пануе сьпякотная цішыня. Якую парушаюць адно салаўі. Я разумеў, што яшчэ не сэзон для масавага дачніцтва. Але ад пачуцьця няўтульнасьці гэта не пазбаўляла. Я блукаў па пустым пасёлку, у надзеі знайсьці каго-небудзь з пэрсанажаў. Дзіўна – прывідны аўтар, хочучы таго, ці не, ператварыў бальшыню рэальных асобаў, людзей, думаю, зь ня меншымі творчымі амбіцыямі, ва ўсяго толькі сваіх забаўных пэрсанажаў, сэнс жыцьця якіх быццам абмяжоўваўся чатырма соткамі зямлі. Зрэшты, ад каго яшчэ я мог даведацца пра пісьменьніка й бальшавіцкага штурмавіка Сілана Гусева, аб якім маўчыць Беларуская Энцыкляпэдыя? Якая ўсё ж нястрашная атрымалася ў таго Ведзьмака эпоха. Ад ідыятызму ЦК і СП можна было зьбегчы на лецішча, уключыць ціхенька беларускую «Свабоду» і зарыцца ў грады. Але пра гэта таксама ў паэме ёсьць:

*«Абмаляваўшы голь*
*і ўбоства,*
*пара зрабіць мне рэзюмэ:*
*страшней няма самазабойства,*
*чым вось такое – на дзярме!*
*І калі, дружа Грыша-Міша,*
*мяне ты ў госьці пазавеш –*
*я не спытаю, што ты пішаш?*
*Я запытаю: чым жывеш?*
*Ты зубы мне не загаворыш.*
*Ёсьць дыялектыкі закон:*
*Дзярмом жывеш –*
*дзярмо і творыш.*
*(А натварыў – дык*
*выкінь вон!)»*

Неўзабаве мне пашанцавала на сустрэчу. Каля акуратнага дамка з чырвонай цэглы я знайшоў пісьменьніка, кніжкамі якога зачытваўся яшчэ ў дзяцінстве — Міхася Герчыка. Размову зь ім я вырашыў пачаць з цытаты: «Аўрамчык з Герчыкам і Жычка – як бабруйчане-землякі – у бабруйчан, вядома, звычка – з радзімы вывезьлі дамкі».

*— Так. Вось гэтыя дамкі. Вось мой, вось побач дом Жычкі. Потым я свой абклаў цэглай, але гэта той самы дамок. Ну вось, з 68-га году, з раньняй вясны ўсё гэта пачыналася. Прайшло больш за 30 гадоў. І, на вялікі жаль, за гэтыя 30 гадоў шмат людзей ужо адыйшло ў нябыт. І часам вечарам, калі я хаджу па гэтых вуліцах, мне здаецца, што я хаджу па могілках.*

*Ну, «Сказ пра Лысую гару», калі ён зьявіўся, дык нарабіў шораху, канечне. Мы атрымалі яго ў выдавецтве, гэтак жа як і атрымлівалі ўсе. Раптам раніцай прынесьлі пошту, і сакратарка адкрыла пакет, прачытала, і па ўсім выдавецтве пайшоў погалас, што вось зьявілася такое нейкае цуда. Пачалі чытаць. Ну, там пра ўсіх. Пра нас неяк так ашчадна, з Жычкам і Аўрамчыкам. Пра Аўрамчыка там ёсьць больш злосна. І пра Жычку. Жычка тады быў рэдактарам ЛІМа. Займаў важную пасаду. Чэрня са сваімі хлопцамі памагалі будаваць яму дом. І ў Аўрамчыка маладыя аўтары завіхаліся. Ён загадваў аддзелам паэзіі. Але ўсё гэта глупства, вядома. Памагалі па-сяброўску.*

*Я асвойваў гэты ўчастак вельмі арыгінальным спосабам. Дзірван жа быў, суцэльны дзірван. Я прывез дзесяць пляшак гарэлкі і закапаў іх у розных месцах па ўчастку. Сабраў сяброў і сказаў: «Во, капайце. Як знойдзеце першую, так і сядзем. І так паступова ўсе дзесяць і апрыходуем. Мы два дні капалі гэты ўчастак, бо капалі надта старанна, каб не пабіць пляшкі рыдлёўкай. Як дабраліся да першай, дык было агульнае сьвята. Селі й пасядзелі добра, тут, у гаёчку гэтым. За два дні выбралі ўвесь пырнік, перакапалі ўсю зямлю, і знайшлі ўсе дзесяць пляшак. Ніводнай не пабілі. Вельмі ўдала працавалі людзі, вельмі старанна...*

*Хто напісаў гэтую паэму, так мы й ня ведаем. Называлі многа імёнаў, называлі й Звонака, называлі й Караткевіча, называлі й Барадуліна. Паэма напісаная таленавітай рукой. Вядома, пісаў яе ня толькі майстар, але й чалавек, які глыбока знаў вось гэту рэчаіснасьць. Дэталі, якія ёсьць у паэме, іх нельга было пачуць ад некага. Іх трэба было бачыць самому. Чалавек ведаў усё, усе падрабязнасьці. Калі нехта пабудаваў там прыбіральню, як ракету – Гусеў здаецца – дык гэта адразу ж легла ў паэму. — А тады ўспрымалася гэта ўсё бяз крыўдаў? Праўда, і крыўда была. Вялікі друг усіх славян, вядома ж, быў абражаны й пакрыўджаны страшэнна. Але мы сьмяяліся.*

*Была нейкая паездка неўзабаве. (Тады ЦК любіла наладжваць паездкі пісьменьнікаў па вёсках, па райцэнтрах.) І быў сакратар ЦК па ідэалёгіі... ня помню прозьвішча. І Шамякін пажартаваў у аўтобусе – а што калі надрукаваць? А той сказаў – чаму не? Друкуйце. І, тым ня менш, надрукавана яна была значна-значна пазьней. І зрабіў гэта Лёня Гаўрылкін, зямля яму пухам. Ён быў тады рэдактарам «Вожыка». І ў «Вожыку» выйшла два выданьні. Прытым, першае разьляцелася імгненна. Зачытваліся. Самае дзіўнае, што зачытваліся людзі, далёкія ад літаратуры, якім усе гэтыя рэаліі былі абсалютна чужыя. У таксі сядаеш, альбо гаішнік спыніць на дарозе – гэта вельмі часта са Ставерам было... Ён бясконца парушаў правілы руху, яго бясконца спынялі гаішнікі. Ён ім адразу дарыў свае кнігі, крычаў, што ён беларускі паэт. Яму гаварылі : «Ага! Раскажы пра Лысую гару. Што вы там круцілі на Лысай гары». Паэма адлюстравала рэчаіснасьць, асэнсавала той час – гэта бясспрэчна. «Сказ пра Лысую гару» застанецца помнікам часу. Гэтак жа як «Тарас на Парнасе». Гэта адмеціна таго складанага часу, і добрага ў нечым, і кепскага, вядома. Добрага, можа, таму, што мы маладыя былі...*

«Ну, вось і ўсё маё сказаньне,
і кропку ставіць мне пара.
Пара сказаць на разьвітаньне:
бывай жа, Лысая гара!»

Я вяртаўся ў Менск, так і не адкрыўшы да канца сакрэту папулярнасьці старой паэмы. А можа, ніякага сакрэту й не было? А было жывое жаданьне паказаць жывое жыцьцё жывою моваю. Не за ганарар, а каб цікава было. «Сказу» Ведзьмака-Лысагорскага сёлета спаўняецца 25 гадоў, але, чамусьці, верыцца, што згадваць пра Лысую гару будуць ня толькі па юбілеях.

**Зьміцер Бартосік**

## каляндар

**6 чэрвеня 1950 г.** у вёсцы Кляны Дубровенскага раёну нарадзіўся Аляксей Дудараў. На пачатку жыцьцёвага шляху была прафтэхвучэльня, потым Наваполацкі нафтаперапрацоўчы завод, служба ў войску, зноў Наваполацкая рафінэрыя. Аляксей Дудараў хоча вырвацца з гэтага зачараванага рабочага кола. У 1972 г. ён паступае ў Беларускі тэатральна-



мастацкі інстытут, які скончыў у 1976 г. Калі хто ня бачыў спэктакляў паводле ягоных п'есаў, дык мусіў абавязкова глядзець кінакамэдыю «Белыя росы» паводле ягонага сцэнару.

**7 чэрвеня 1825 г.** у мястэчку Тургелі ў Віленскім павеце нарадзіўся Эдвард Баніфацы Паўловіч — мастак, мэмуарыст, скарбнік музэю Любамірскіх у Львове.

Хутка пасьля нараджэньня Эдварда сям'я пераехала на Наваградчыну, дзе завязала добрыя адносіны з родам Міцкевічаў. Малы Паўловіч па навучаньні пры кляштарах базыльянаў у Жыровічах і Слоніме ды Слуцкай гімназіі пераехаў у Вільню, дзе ў якасьці вольнага слухача наведваў лекцыі ў Духоўнай Акадэміі і Мэдычна-Хірургічнай Акадэміі. Але ні сьвятара, ні мэдыка зь яго ня выйшла. Паўловіча цікавіла мастацтва, таму ён спачатку браў у Вільні прыватныя ўрокі маляваньня ў Канута Русецкага і Караля Рысінскага, а ў 1849 г. пераехаў у Пецярбург, дзе паступіў у Інстытут пекных мастацтваў. Па сканчэньні пецярбурскіх штудыяў ён на пэўны час зьехаў у Заходнюю Эўропу. У 1859 г. Паўловіч вяртаецца, але не ў Пецярбург ці Вільню, дзе яго чакалі і дзе ён быў патрэбны. Ён прыехаў у Наваградак, улюбёны горад свайго дзяцінства; там ён стаў настаўнікам у мясцовай гімназіі, паралельна заняўся антыалькагольнай прапагандай сярод мужыкоў.

Ёсьць такое словазлучэньне прага жыцьця. Дык гэта і пра Эдварда Паўловіча. Карыстаючыся падтрымкай Канстанціна Радзівіла, куратара наваградзкіх школак, ён заклаў у Наваградку жаночы пансіён і нядзельную школку для сялянаў (асобная школка была закладзеная для жыдоўскіх дзетак). У 1860 г. Эдвард Паўловіч заснаваў прыватны аматарскі тэатар, у якім быў і кіраўніком, і акторам, і дэкаратарам. Шмат намаганьняў прыклаў ён дзеля адкрыцьця помніка Адаму Міцкевічу на гары Міндоўга, але расейскія ўлады, справядліва баючыся мясцовага патрыятызму, у апошні момант не далі дазволу на ягонае адкрыцьцё. За ўдзел у антырасейскім паўстаньні 1863 г. Эдвард Паўловіч быў высланы «за межы Літвы». Вынікам туляньняў па Расейскай імпэрыі сталіся ўспаміны: «Наваградак — вязьніца — выгнаньне». Пасьля сканчэньня тэрміну высылкі Паўловіч пакінуў Расейскую імпэрыю, нейкі час жыў у розных гарадах Галіцыі, нідзе доўга не забавіўшыся. Так прыехаў у Львоў і застаўся там на 35 гадоў, дзе й памёр на адзіноце ў 1909 г.

Што пакінуў нам у спадчыну Эдвард Баніфацы Паўловіч? Абраз сьвятога Даменіка ў Навагрadзкай фары, выкананы ў стылі Тыцыяна, шэраг копіяў карцін на рэлігійныя тэмы, партрэт Гуга Калантая. Але найбольшую вартасьць для нас уяўляюць краявіды Наваградку і ягоных ваколіцаў, замалёўкі Вільні, а таксама ўспаміны: «Успаміны з-над Вяльлі й Нёмана», «Мае ўспаміны пра часы школьніцтва», «З падарожжа па Літве», «Двое памятных сутак у Менску 1863 году» — на гэтай спадчыне вырасталі патрыёты былой Рэчы Паспалітай.

**8 чэрвеня 1900 г.** чэскія дэпутаты зьявіліся на паседжаньне аўстрыйскага парлямэнту з талеркамі і трубамі. Сем гадзінаў яны заміналі працаваць, пратэстуючы супраць уціску правоў чэскага народу. Так пачынаўся апошні этап змаганьня за нацыянальную незалежнасьць. Праз васямнаццаць гадоў чэхі здабылі незалежнасьць.

**11 чэрвеня 1975 г.** ува Ўгандзе брытанскі журналіст Дэніс Гілз быў прысуджаны да кары сьмерцю за тое, што ў адным зь ненадрукаваных артыкулаў назваў тамтэйшага прэзыдэнта-дыктатара Аміна калгасным тыранам. Толькі пасьля ўмяшальніцтва брытанскага міністра замежных справаў Калагена сьмяротнае пакараньне скасавалі.

**Алег Гардзіенка**

Уладзімер СОДАЛЬ

# «НАША НІВА» СЬМЯЕЦЦА

Можа, гэта для некага будзе і нечаканкай, можа, гэта некага зьдзівіць, але «Наша Ніва» пачала сьмяяцца толькі напрыканцы трэцяга году свайго жыцьця, з сорак дзявятага нумару за 1909 год. А дагэтуль у «Нашай Ніве» гумару не было. Але вось у № 49 на апошняй старонцы зьявілася рубрыка «Жарты». З тае пары «Наша Ніва» больш-менш стала пачала друкаваць куточак гумару. А чаму да гэтага не друкавала? І напраўду, як гэта так, каб такая газэта, як «Наша Ніва, газэта для народу, ды была бяз гумару?!

Адказ просты. Не было ў рэдакцыі такога чалавека, які б заняўся гэтым. Але напрыканцы 1909 году ён зьявіўся. І ім стаўся ніхто іншы, як Ядвігін Ш. Вось толькі зь яго прыходам «Наша Ніва» пакрысе пачала сьмяцца. Сьмяялася з горкай долі сваёй, зь цемнаты сваёй. Дый ня толькі зь іх! Хапала ў тагачасным жыцьці з чаго сьмяяцца! І «Наша Ніва» разам з сваім гумарыстам Ядвігіным Ш. сьмяялася. Балазе, і сам рэдактар «Нашай Нівы» славіўся як самы заўзяты гумарыст. «Вельмі сьмяшлівы быў», — згадваюць пра яго. Шмат з таго, што колісь падслухаў і надрукаваў у «Нашай Ніве» Ядвігін Ш., увайшло ў залаты фонд нашага гумару. Вельмі часта, скажам, сёньняшнія газэты друкуюць такую сьмяшынку:

— Чаго плачаш, Янук?

— Капейку згубіў.

— На табе дзьве, толькі ня плач.

Янук узяў дзьве капейкі, схаваў іх і зноў плачэ:

— Дык чаго ж плачыш?

— Як жэ мне ні плакаць? Як бы ні згібіў гэнай капейкі, дык меў бы ўжо тры.

Чытачы сёньняшніх газэт і не здагадваюцца, што гэтая сьмяшынка калісь пайшла гуляць па сьвеце са старонак «Нашай Нівы». Ці яшчэ залацінка, падслуханая Ядвігіным Ш. і надрукаваная ім у «Нашай Ніве».

— Што гэта ў цябе, Яська, на носе сядзіць?

— Барадаўка!

— Чаму ж ты яе не зьвядзеш?

— Нельга! Яна ў пашпарце ўпісана. За гэта, брат, пападзець.

Пасьля Ядвігін Ш. зьбярэ пачутыя ім сьмяшынкі, жартовачкі і выдасьць у 1915 годзе асобнай кніжкай «Беларускія Жарты». У ёй зьявяцца і першыя беларускія жарты на літаратурныя тэмы такога кшталту:

— А паненцы хто больш да спадобы: пісар Янка Купала ці Якуб Колас?

— А мне што да іх за наўда! Я маю свайго кавалера: пісара ў воласьці.

Згаданы жарт пра Янку Купалу і Якуба Коласа быў для Беларусі зьявай новай. Гэта ці ня самы першы жарт пра нашых вялікіх. Ядвігін Ш., здаецца, першы паклаў у яго падмурак такую цаглінку. А было гэта, нагадаю, у далёкім 1915 годзе, у самы разгар вайны. «Дазволена ваеннай цэнзурай», — значыцца на адвароце вокладкі.

Нашаніўская пара — гэта пара народзінаў палітычнага і моўнага беларускага гумару.

І гэта натуральна: адбывалася адраджэньне нацыі. І гэтая зьява знаходзіла свой адбітак у гумары. Ядвігін Ш. пільна лавіў гумарынкі такога кшталту і шчодра частаваў імі чытачоў «Нашай Нівы». Вось колькі такіх гумарынак, занатаваных Ядвігіным Ш.

*Спаткаліся раз беларусы з мазурамі. Вось мазуры і пытаюцца:*

*— Хто вы такія?*

*— Мы мужыкі, — адказваюць беларусы.*

*— Ага, музыцы... А адкуль ідзяце?*

*— Ад Буга!*

*— Ага, ад Бога! А што вы несяце на кіях?*

*— Пасталы.*

*— Ага, апосталы! Бачыце, — зьвярнуўся ўрэшце адзін з мазуроў да сваіх: «Я добра казаў, што гэта ня людзі. Гэта апосталы і музыкі ад Бога!»*

***

*Пытаўся беларус маскаля:*

*— Калі ў вас Вялікдзень?*

*— У Пятроўку, — кажа маскаль.*

*— Не, ня тое. Калі ў вас Васкрасеньне?*

*— Эва! У нас штотыдзень уваскрасеньне бывае.*

Гэтыя свае гумарынкі Ядвігін Ш. чэрпаў поўнай жменяй з жыцьця. Сярод ягоных карпілаўскіх суседзяў, расказваюць, было шмат жартаўлівых. У іх Ядвігін Ш., перакананы, і падслухаў многія свае сьмяшынкі. Гэтыя сьмяшынкі і зараз перадаюцца ягонымі суседзямі і землякамі адзін аднаму.




...Ня гэтак даўно я наведаў Карпілаўку. Там спаткаўся з старэйшай і ўжо амаль адзінай жыхаркай Надзеяй Левандоўскай з Гаеўскіх, колішняй суседкай Лявіцкіх. Пацікавіўся, ці ведае яна хоць якія тутэйшыя старыя анэкдоцікі, жарты. Спадарыні Левандоўскай згадаліся дзьве даўнія гумарынкі.

### АДЗІН ЛІК, ШТО КАТАЛІК

Жыў тут у нас адзін. Звалі яго Дзявочка. І от прыйшло яму ў галаву з праваслаўных у каталікі перакінуцца. Надумаўся і перакінуўся. Запрог адзін раз валоў, узяў з сабою сына і паехаў да касьцёлу. Прыехаў. Валы паставіў за касьцёлам, сына пры іх пакінуў, а сам у сьвятыню зайшоў. Зайшоў і пацеры па-польску шэпча: «Ва імя айца, сьвятога духа... Амань!» А ксёндз быў побач. Чуе, як той малітву нявечыць, і ціха шэпча: «Дзе падзял сына?» А той, доўга ня думаючы, яму на гэта: «За касьцёлам стаіць, валы сьцеражэ...» — падумаў, што ксёндз пра ягонага сына пытаецца. А ксёндз хацеў сказаць, што слова «сын» у малітве прапусьціў. «Цо ты пляцеш?» — кажа недаўменна далей сьвятар. А гэты, што з праваслаўных у каталікі перакінуўся, дый зноў неўпапад: «Кашэчкі ды сявенькі!» Раззлаваўся ксёнжа і прагнаў Дзявочку з касьцёлу. Едзь, дурань, кажа, дадому, дахаты. Навучыся, як належа, пацеры казаць! Паехаў. Ехаў і ўсю дарогу думаў, за што яго з касьцёлу выправілі, здаецца ж, і пацеры вывучыў... ды так ні да чога не дадумаўся.

### ЛАПЦІ НА ПАТЭЛЬНІ

У Карпілаўцы сваіх жабракоў не было. Находзілі з суседніх вёсак. Надаралася і начавалі. От аднаго разу адзін такі жабрак заначаваў у аднаго гаспадара. Як заначаваў, дык і заначаваў: ужо раніца, уставаць пара, а ён усё сьпіць і сьпіць, як пшаніцу прадаў. Гаспадарам трэба ісьці малаціць, а ён усё сьпіць ды сьпіць. Кінулі гаспадары яго аднаго ў хаце, а самі пайшлі на ток. А жабрак выспаўся, колькі яму хацелася, па хаце прайшоўся. Есьці захацелася. Ён і давай па гаршчках ды варэйках лазіць. Зазірнуў у печ, аж там на патэльні гусак смажаны. Жабрак за таго гусака і ў торбу сваю. А замест гусака на патэльню лапці свае, неданоскі, шыбнуў. Шыбнуў і з хаты прэч. Ідзе па вёсцы і прыгаворвае: «Ой, божа, мае людцы! Як сьвет пераменіўся. Быў Гусакоўскі. Жыў у Панадворцы, пераехаў у Скавародцы. А цяпер з Скавародцаў перабраўся ў Тарбоўшчыну. Ці ж ня дзіва, людзцы, гэта!» — казаў ён стрэчным. З гэтымі словамі ён і выйшаў зь вёскі. А там шукай у полі ветру. Вярнуліся гаспадары з малацьбы, аж у хаце ні жабрака, ні гусака. Толькі лапці на патэльні.

*Карпілаўка, 1999 г.*

# ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ ПАПУЛЯРНЫХ ПАМЫЛАК

*ЖЫВЁЛЫ*

**БУСЕЛ – ВЕРНЫ МУЖ**

*Бальшыня буслоў жывуць стабільнымі парамі, але наш беларускі белы (Ciconia ciconia ciconia – бяз жартаў, гэта ягоны лацінскі назоў) не заўсёды захоўвае сужэнскую вернасьць да сьмерці. Ён вяртаецца з выраю на тыдзень-два раней за леташнюю жонку,*



*займае старое гняздо ды ахоўвае сваю тэрыторыю. Бусьліха, якую ён крыху пазьней вітае ўсхвалявааным клёкатам, не абавязкова тая самая, што й год таму, а папросту першая, што патрапіла. Здараецца, што новую гаспадыню застае леташняя, тады бусел роўна й спакойна назірае за іхнай бойкай, а потым робіць і гадуе дзетак разам зь пераможцай. Гэткія акалічнасьці былі даказаныя праз акальцоўку й назіраньне за вялікай колькасьцю птушак. Памылкова й тое, што пакуль бусьліха наседжвае яйкі, будучы бацька здабывае ежу. Насамрэч, яйкі грэе менавіта ён.*

**ДЗІК – АГРЭСАР**

*Сюжэт, калі дзік (Sus scrofa) з налітымі крывёю вачыма пільнуе пад дрэвам небараку-паляўнічага пакуль той зьняможацца, можна сустрэць хіба што ў гумарыстычных часопісах ды мультфільмах. Варта крытычна ставіцца й да «праўдзівых» расповядаў грыбнікоў, якіх ці не гадзінамі ганяў па лесе «жахлівы зьвер». Дзік уцякае ад чалавека пры любых абставінах, за скрайне рэдкім выключэньнем, калі сам паранены, абкружаны ці загнаны. Нават дзічыха-маці робіць адно дэманстрацыйныя захады, забясьпечваючы сваім малым некалькі сэкундаў часу для адыходу. Перабольшаная небясьпека й афрыканскага барадавістага дзіка (Pchacochoerus aethiopicus). У па-*



*раўнаньні зь беларускім ён, вядома, сапраўдны монстар, але фактаў каб ягоныя аграмадныя іклы прынесьлі якуюсь шкоду людзям не зафіксавана: іхнае прызначэньне – рыць зямлю ды рваць перапляценьні каранёў у дзірване.*

**ВОЎК – ЛЮДАЖЭР**

*Гэты зьвер (Canic lupus) у зграі ці адзінаасобна ніколі не нападаў ні на пешых путнікаў ні на экіпажы. Ён ня зжэр ніводнае хворае бабулькі ці дзяўчынкі ў чырвоным каптурку, гэтаксама як і ніводнага сьвятара, што сьпяшаўся скрозь ноч на апошнюю споведзь да кагосьці ў суседнюю вёску. І беларускія параўнальна малыя ваўкі, і сыбірскія ці канадзкія, вагою на паўцэнтнэры, пазьбягаюць чалавека, пры сустрэчы кіда-*



*юцца ва ўцёкі, нават калі надзвычай галодныя. Адзіны выпадак, калі воўк можа пагрызьці людзіну (ня толькі воўк, а й ліса ды іншыя зь сямейства псовых, прыкладам дынга, каёт ці собскі сабачка) – гэта захворваньне на інфэкцыйнае шаленства. Але й гэта не напад у простым сэнсе. Бедная жывёліна бяжыць ды кусае ўсё на сваім шляху, ці то камень, ці кол, ці чалавечая нага. Шкода, што наносіцца ваўкамі сельскай гаспадарцы, таксама пераацэненая часьцей за ўсё на драпежніка сьпісваюць банальныя калгасныя крадзяжы. Дарэчы, ваўкі можа толькі аднойчы-двойчы на год палююць на буйную жывёлу (узімку); астатні час іхны рацыён – грызуны, птушкі ды іншая драбяза.*

**МЯДЗЬВЕДЗЬ – НЯЎКЛЮДА**

*Буры мядзьведзь (Ursus arctos), дарэчы, у бальшыні разоў ён чорны, сьветла-жоўты, шэры, рэдка калі буры – жвавы бягун (разьвівае хуткасьць да 55 km/h), выдатны плывец (пераплывае самыя шырокія рэкі), можа пераскочыць паўтарамэтровую перашкоду, прайсьці дзясяткі кілямэтраў густым лесам. Цікавая дэталь: згодна з найноўшымі дасьледаваньнямі археолягаў, мядзьведзь, а не сабака, быў першы прыручаны чалавекам. Старажытныя малюнкі, казкі, сагі сьведчаць пра тое ад Ляпоніі да Чукоткі й далей да Паўночнай Японіі, дзе жыве племя айнаў. Жанчыны айнаў нават давалі цыцку гры-*



*ручаным мядзьведзянята нароўні з роднымі дзецьмі. У Аўстрыі, у аднэй зь пячораў быў знойдзены старажытны мядзьвежы загон, дзе ўзрост костак, драпінаў на сьценах сягае каменнага веку. Мядзьведзяў трымалі дзеля трывалых скураў, мяса, лекавых тлушчу й жоўці.*

**КАЛІБРЫ – КАЛЯРОВЫ КАРЛІК, ШТО СІЛКУЕЦЦА НЭКТАРАМ**

*Па-першае, усе калібры (сямейства Trochilidae), а іх каля трохсот відаў – чорныя. Тонкі слой празрыстага тлушчу, якім пакрытыя пёры птушкі, у гарачым вільготным паветры трапічнага поясу Паўднёвае Амэ-*



*рыкі растапляецца, робіцца празрыстым і пры частых махах крылаў пераламляе сонечныя прамяні, расклаўшы іх на сем колераў (прынцып вясёлкі). Па-другое, бальшыня калібры зусім не маленькіх памераў; некаторыя віды сягаюць 21 cm ў даўжыню (бязь дзюбы й хваста). Калібры рухаюць крыламі не як іншыя птушкі, па эліпсе, а робяць імі ў паветры «васьмеркі», прыкладна 200 разоў за сэкунду. Выдаткі энэргіі пры гэтым прапарцыйныя колькасьці энэргіі, якую чалавек мог бы траціць, спажываючы штодзень 140 kg мяса ці 180 kg бульбы. Натуральна, што й абмен рэчываў у калібры ў сотні разоў шпарчэйшы. Хуткае узнаўленьне клетак немагчымае бяз моцнай бялковай падтрымкі, таму ўсе калібры – драпежнікі; нэктар – нешта накшталт дэсэрту ў іхным мэню.*

**Вадзім КАРЦАЎ,**

***трактоўны пераклад паводле Людвіга СОЎЧАКА***

**«ЦІК-ТАК, ХОДЗІКІ. Песьні для маленькіх беларусаў». Леанід Пранчак і розныя выканаўцы. «Ковчег», 1999.**




Памятаецца, зьедлівы і з такім дужа індывідуальным пачуцьцём гумару Джагер з групы «Рублёвая зона» неяк перайначыў словы загалоўнай песьні гэтага альбому, прысьвяціўшы тое Тамары Віньнікавай. У выніку песьня пачыналася так: «Цік-так, ходзікі, далі ёй тры годзікі». Тое, што песьня сталася аб'ектам своеасаблівай пародыі, сьведчыла пра яе безумоўны посьпех у слухачоў у цэлым і ў Джагера ў прыватнасьці. Ня кажучы ўжо пра маленькіх беларусаў, але й пра дарослых, цяпер нават бэльгійцаў, жыхароў краіны, якую асабіста ашчасьлівіў Джагер, пакінуўшы абрыдлую яму рублёвую зону.

Леанід Пранчак -- паэт. І нават настаўнік. Кажуць, Міхася Фінберга беларускай мове навучаў, хоць і зь пераменным посьпехам. А яшчэ напісаў тэксты для многіх сапраўды ўдалых песень. А яшчэ яму пашэнціла ў тым сэнсе, што тэксты тыя збольшага трапілі да здольных кампазытараў, у выніку чаго Пранчак, так бы мовіць, уласнымі рукамі ў садружнасьці з Эдуардам Ханком, Зьмітрам Яўтуховічам адліў сабе пры жыцьці колькі ладных бронзавых бюстаў у выглядзе хоць бы той самай песьні пра ходзікі ці «Калыханкі» («Сьпіць над лесам аблачынка»).

Удалая касэта. Тут і казка табе ёсьць, і песьні ў выкананьні Валер'я Дайнекі, Надзеі Мікуліч, дзетак розных таленавітых і дзядзек-прафэсіяналаў. А пра тое, што такія выданьні для маленькіх беларусаў надзвычай патрэбныя і жаданыя, сьведчыць адзін дарослы факт. Неяк сустрэў у шынку кампанію дзецюкоў па добрым ужо піве. Адухоўленасьць твараў сьведчыла пра тое, што ані Джагера яны ня ведаюць, ані Пранчака і тым больш -- Эдуарда Сямёнавіча. Але дзецюкі тыя старанна выводзілі: «Цік-так, ходзікі...» І далей нешта пра «ўродзікаў» і розныя, зьвязаныя зь імі, цёплыя пачуцьці. «Ага! — падумаў я. — І гэтых праняло сапраўднае музычнае мастацтва».

Вось і мне хочацца, паслухаўшы калі такую касэту, вярнуцца ў дзяцінства і пераканацца, што навокал — суцэльныя маленькія беларусы і няма аніводнага дарослага савецкага пудзілы. Ды, на жаль, сёньня маю магчымасьць адно зьдзяйсьніць. Што й раблю.

Цік-так Слухач.

**I GOTTA MOVE. Група Mojo Blues. «Ковчег», 1999.**




Значыць, так... Пра густы спрачацца ня будзем. Правядзем параўнальны аналіз на прадмет адпаведнасьці блюзавых напояў запатрабаваньням шырокае публікі.

Наліваем шклянку простай гарэлкі і столькі ж — «бакштанкі». Ці слыннай старадарескай. Не на продаж выгнанай, а для сябе. «Тры бульбінкі», як вызначаў якасьць напою вялікі знаўца Генадзь Цітовіч. Выпіваем. Пакуль схопіць галаву, думаем, аналізуем.

Напой I Gotta Move, безумоўна, якасны атрымаўся. Усе дзесяць нумароў, зь якіх толькі тры належаць сябрам заходніх саюзаў кампазытараў, гучаць прыстойна і стылёва. Як на закусь — гожы дызайн вокладкі. З Аляксеем Казлоўскім, Ільлём Шэўчыкам ды Андрусём «Філам» Філатавым альбом запісвалі Алена ды Натальля — цукерачкі з дуэту LIN's, а таксама «крамаўцы» — Андрэй Лявончык на клявішных ды Ігар Варашкевіч на губным гармоніку.

Работа прад'юсэра — дык наагул рэдкая для Беларусі па адчуваньні гуку, дынамікі. You Are The Boss — гэта, як мне здалося, менавіта пра Аляксандра Юрчанку Бі Бі Кінг песьню напісаў. Карацей, лепшую праграму ў гісторыі беларускага блюзу і прыгадаць неяк цяжка.

Не, канечне, нешта асобнае такое было... Фрагмэнтамі. Неяк у галаве ўжо круціцца, але ня згадваецца адразу. Ці то ўжо сама галава пасьля дзьвюх шклянак закруцілася, нейкай вінілавай раптам зрабіўшыся. Дык гэта мы пра што? Блюзшмуз, бяз газу няма джазу...

Ага, I Gotta Move! Вось і пытаюся: якая з тых дзьвюх шклянак лепш прайшла? Безаблічная гарэлка фабрычная ці для сябе зробленая з-падкарчоўка? Вось! А гэта ж я не прапагандай алькаголю займаюся, да ведама Дзяржкамдруку, а параўнальным блюзавым аналізам.

«Можа блюз» -- памятаю, гэтак нехта спрабаваў кпіць з назвы групы. Каб аўтар таго жарту мог гэтак іграць, я б прапусьціў той жарт між вушэй. Ведаю, дарэчы, аднаго дзеяча мясцовага шоў-бізнэсу, які ўсіх нашых музыкаў увесь час абражае словамі «усялякія там...» Ён таксама блюз спрабаваў іграць, між іншым. На выхадзе атрымалася нешта такое, што ў вёсках нават на продаж, чужым, не даюць. Кшталту ласьёну «Васілёк». Непітное, адным словам. Дык Mojo Blues стылем валодае. Адно што гэтая менавіта праграма атрымалася нейкая... як бы гэта... ну, яшчэ па адной!

Во! Я й кажу: фабрычная гарэлка — яна бяз смаку, бяз водару. Вада, адным словам, у сумесі з рэктыфікатам. Свойская ж — на зёлках, праз сэрца прапушчаная, праз душу, смак не — на ўсё жыцьцё ўспамін! Я, пакуль здольны яшчэ сёе-тое кеміць, прызнаюся: блюз лічу за лепшае слухаць жыўцом, а ня той, што вылізаны ў студыі да апошняе ноткі. Гучаньне I Gotta Move настолькі чыстае, дасканалае, майстэрскае, што так і хочацца запусьціць у яго, гучаньне, якім салёным агурком. Хіба што закусі шкада. Ну не стае мне ў тых запісах душы -- і ўсё! Мабыць, усё ж нейкая памылка здарылася: або спадар прад'юсэр мусіў студыйнае стэрыльнае паветра скарэктаваць у дачыненьні да блюзу, або падкруціць на пульце якія гузікі, каб паветра тое напоўнілася чадам гораду, пахамі, галасамі. Або, урэшце, зьмітаваць запіс пад жывое ў студыі граньне.

Вось тое быў бы стрэл у «дзясятку»! Ну, тады яшчэ па адной... Хто што жадае. Я асабіста заміж фабрычнай -- свойскую, блюзавую. Аўтэнтычную, як той казаў. Як там народ за сталом звычайна сьпявае? It Don't Means Nothing But The Blues. Оў, е-е! За яго! Альбом усё ж дужа добры атрымаўся.

Блюзануты Слухач

**«УЛЫБКА ЛУНЫ». Зоя Гарына. «Ковчег», 1999.**




Ведаеце, хто такая Зоя Гарына? Не?! Тады гуляйце, пытаньняў да вас больш няма.

Я — ведаю. Не дзяўчо пісьлявае якое. Жанчына! Тых, дарэчы, узросту і досьведу, зь якімі ў «іх» запрашаюць на цырымонію ГРЭМІ прызы ўручаць. Спадзяюся, неўзабаве і Гарына хоць бы нешта айчыннае атрымае. Дарэчы, хто не прачуў: яна намінавалася на «Рок-князёўну» за 1999 год. Хоць па сутнасьці яна блюзавая князёўна, якая сьпявае правільныя песьні няхай сабе і па-расейску, але так, як мала хто і з расейцаў здольны. Сама музыку піша, сама — тэксты. Выступала пару разоў у Менску ў «Стар-клюбе» — супэр! Акампанэмэнт — усяго адна гітара. Альбом жа запісвала з дапамогай розных бразготак ды пішчалак. І голас — вельмі своеасаблівы, манера выкананьня — адметная і непаўторная. Цуд гомельскі, адным словам!

Прычым блюзы яе — гэта зусім ня стогн расчараванай у жыцьці жанчыны, якая ня дала пляну на заводзе, мужык якой п'е, а дзеткі з БПСМ зьвязаліся. Не! Усё і прасьцей, і мудрэй. Ведаеце гэтую мадэмуазэль францускую, якая сьпявае блюз? Не, ня Бэсі Сьміт, а ейную вучаніцу ў дзясятым калене. Дык вось, у яе ў Францыі можа рэальна канкурэнтка зьявіцца, бо, паводле чутак, усюдысісны Аўген Калмыкоў збагрыў Зою Гарыну «пранцузам», якія надумаліся цэлы тур па краіне зрабіць пад назвам «Зоя і французы». Між іншым, з блюзамі Гарынай ды на расейскай мове. Во як!

Будзе тое ці не, ужо й ня так істотна. Дастаткова ўжо, што ёсьцека ў Гомелі жанчына, якая марыла «стать ангелом, чтоб научиться летать». І ў яе тое атрымалася.

Яе музыка ўзьдзейнічае, быццам той прыбор, які выдуманы яе сваяком, інжынэрам Гарыным. Яе блюзы літаральна разразаюць душу на асобныя часткі. У міліцыі тое называюць «расчлянёнка». У блюзе тое называецца «кайф». А тое, што яна на «Славянский базар» ня трапіць, -- гарантыя! Туды ж наагул добрае ды вартаснае рэдка трапляе. Зоя, між тым, па чутках, другі альбом запісвае. Гэтым разам з групай. Зноў блюзы. Во дасьць, адчуваю, во ўмажа!

Яна -- жанчына, якая можа. Прывітаньне Патрыцыі Каас!

Анёльскі Слухач

**«ТОЛЬКО С ТОБОЙ». Група «Белорусские Песняры».**




Пасьля скандальнага развалу славутых, клясычных «Песьняроў» на дзьве самастойныя творчыя адзінкі прайшло даволі шмат часу, каб можна было і па бойцы кулакамі памахаць, і на справе паказаць, які з калектываў чаго варты. Новыя «Песьняры» Уладзімера Мулявіна да гэтага часу ня здолелі стварыць чарговую праграму, спадзеючыся больш на былых удзельнікаў калектыву, «Белорусские Песняры» нядаўна далі нарэшце ў Менску вялікі сольны канцэрт, на якім прэзэнтаваўся гэты самы альбом. Улічваючы, што цяперака за акіянам жывуць чалавек восем з тых, хто некалі выступаў у групе – з-за вялікай цякучкі кадраў — застаецца спадзявацца, што і «Амэрыканскія Singers» што-небудзь удумаюць выдаць на дыску альбо са сцэны.

І гэта будзе нагодай беларускаму шоў-бізнэсу нарэшце патрапіць у кнігу сусьветных рэкордаў! Ажно тры групы з амаль адной назваю ды шмат у чым агульным рэпэртуарам. Гэта ж ня «Ласковый май» з агульнай для ўсіх дваццаці «чосавых» брыгадаў фанаграмай!

Дыск «Белорусских Песняров», дарэчы, не расчараваў. У асноўным ён зьмяшчае новыя, народжаныя менавіта ў гэтым калектыве творы. Са старой спадчыны — клясыка, якая ў аранжаваньнях стаіць дужа блізка да таго, што рабілі «Песьняры». Ня дзіва: у гэтых песьнях найчасьцей саліравалі менавіта тыя вакалісты, якія і разьвіталіся з Уладзімерам Мулявіным. Але калі «Алеся» ды «Зачараваная» ў альбоме на месцы ў якасьці пэўнага знаку пераемнасьці традыцыяў, дык «Наши любимые» сапраўды неяк страціліся ў часе, хоць фанаткі Валер'я Дайнекі бальзакаўскага веку на канцэрце-прэзэнтацыі напэўна не адну насовачку сьлязьмі наталілі.

Ёсьць у альбоме безумоўна ўдалыя песенькі. Найперш загалоўная з узорнай распрацоўкаю вакальных партыяў. Большасьць новых песень напісана Алегам Казловічам, гэткім маленькім пакуль Лучаночкам, які свайму цэню ў таленце, дальбог, не саступае. «Цветок любви», «Белая черемуха» — годныя і гожыя творы, а апрацоўка народнай песьні пра рэкрута — як з той нізкі даўніх яшчэ апрацовак рытмічных народных твораў, якія здабылі папулярнасьць на тэрыторыі ўсяго былога Саюзу. Адной усяго песьняю адзначыўся ў альбоме басіст Аляксандар Кацікаў, але якой! Гады тры-чатыры таму ён яшчэ ў рамках першасных «Песьняроў» напісаў цэлую праграму на вершы Ларысы Геніюш і нават зрабіў яе запіс. Уладзімер Мулявін, па чутках, нібыта даў згоду на паказ праграмы са сцэны, але толькі як сольнага праекту Кацікава. А ў таго грошай якраз і не было!

Во й ляжыць чарговы ўклад у скарбонку беларускае культуры незапатрабаваны. І толькі цяпер адна песьня, пардон, «На ночлеге» (так на ўкладцы ў альбом, зразумела, выкананай з разьлікам на ўсходні рынак) выйшла на шырокі слухацкі прастор. Такія песьні дадаюць гонару і аўтарам, і выканаўцам.

Мы робімся сьведкамі завочнага спаборніцтва двух калектываў, кожны зь якіх, зразумела, будзе рабіць усе захады, каб паказаць, што менавіта ён зьяўляецца найлепшым носьбітам традыцыяў. «Белорусские Песняры» зрабілі першы ход альбомам «Только с тобой». Ход у цэлым пераканаўчы. Пра адказ «Песьняроў» нешта нічога не чутно: сакратарка Мулявіна спадарыня Сьвятлана дагэтуль нібыта ходзіць «па пакутах» і ня надта любіць радаваць прэсу навінамі. Анатоль Кашапараў у Штатах любіць Радзіму і уласную піцэрыю. Леанід Барткевіч, кажуць чуткі, разьвёўся з Вольгай Корбут. Алекс Растопчын у Нью-Ёрку пасьпяхова вучыць амэрыканцаў, як іграць блюз.

Карацей, справа ідзе, што й цешыць. Будзем чакаць навінаў пра ўсіх, без вынятку, песьняроў, незалежна ад іх пашпартнае прыналежнасьці. Бо, па вялікім рахунку, яны ўсе нам дарагія аднолькава.

Беларускі Слухач

НАВІНЫ

## Няма чаго рэклямаваць

Гран-пры міжнароднага фэстывалю рэклямы «Залаты воўк», які ўжо чацьверты раз прайшоў у Менску, прысудзілі турыстычнаму буклету пра Санкт-Пецярбург — радзіму цяперашняга прэзыдэнта Расеі. Фэстываль засьведчыў глыбокі заняпад беларускай рэклямы, што цалкам зразумела: якая эканоміка — такая і рэкляма. Беларускім дызайнэрам папросту няма чаго рэклямаваць. Бадай, адзінае, што ў нас сёньня робіцца ў галіне рэклямы на сусьветным узроўні — гэта гадавыя справаздачы акцыянэрных банкаў.

## «Аксамітная дрыгва»

Асацыяцыя Сучаснага Мастацтва, якая летась ладзіла міжнародны фэстываль пэрформансаў «Navinki'99», рыхтуе новы маштабны праект. У пачатку кастрычніка ў Менску пройдзе фэстываль відэа-арту пад назвай «Аксамітная дрыгва». Відэа-арт — цалкам новы для Беларусі жанар мастацтва: гэта відэастужкі, зьнятыя авангардыстамі. Апроч беларускіх, у фэстывалі «Аксамітная дрыгва» возьмуць удзел мастакі з Латвіі, Польшчы і Швэцыі.

## Конкурс для драматургаў

Больш за 90 твораў беларускіх драматургаў бралі ўдзел у конкурсе новых п'есаў пад дэвізам «Дыялёгі вякоў», які наладзілі Саюз тэатральных дзеячоў і Міністэрства культуры. Найлепшымі п'есамі для драматычных тэатраў журы прызнала творы Яўгена Таганава «Адэль» і Алены Паповай «Сьняданак на траве». У намінацыі «П'есы для дзятвы і юнацтва» перамагла драма Аляксея Дударава «КІМ». Георгі Марчук напісаў найлепшую п'есу для лялечных тэатраў «Начны госьць». Сярод ляўрэатаў конкурсу таксама — Пётра Васючэнка, Ігар Сідарук, Сяргей Кавалёў ды іншыя літаратары.

## Радыё «Гамон»

У канцэртнай залі «Менск» прайшоў канцэрт-сюрпрыз гурта «NRM». Канцэрт быў зладжаны ў выглядзе жывога эфіру Радыё «Гамон» — «дзяржаўнага СМІ Незалежнай Рэспублікі Мроі». Музыкі выканалі каля 20 сваіх і чужых гітоў — у тым ліку гімны «Магутны Вожа» і «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Паводле нашай інфармацыі, зьвесткі пра блізкі распад «NRM» не адпавядаюць сапраўднасьці.

## Рыцары-артысты

Ваярска-гістарычны клюб «Жалезны воўк» і Творчая майстэрня «Credo» з Наваполацку паказалі ў менскім пэдунівэрсітэце эпічны спэктакаль «Гедымін» — маляўнічае трохгадзінавае відовішча з рыцарскімі баямі (да дзесяці ваяроў адначасна), з стылізаванай пад старадаўнюю музыкай, дынамічным дзеяньнем і някепскай ігрой актораў. Першыя два спэктаклі з посьпехам прайшлі ў Полацкім унівэрсытэце і Віцебскім драматычным тэатры імя Коласа. Тэлерэжысэр Віктар Шавялевіч шукае сродкі для здымкаў мастацкай стужкі паводле «Гедыміна».

## Грошы за расказ пра грошы

Найбуйнейшы ў Беларусі недзяржаўны банк «Прыёрбанк» заснаваў прэмію для студэнтаў факультэту журналістыкі БДУ, якія найцікавей асьвятляюць у друку фінансавыя праблемы краіны. Пераможцаў конкурсу чакаюць 500 даляраў ЗША і падарожжа ў адну з эўрапейскіх краінаў. Прысуджацца прэмія будзе штогод 20-га студзеня, у гадавіну заснаваньня банка.

## Нехта выскачыў з карціны

У Нацыянальным мастацкім музэі адчынілася выстава графікі выдатнага гішпанскага сюррэаліста Хоана Міро. Паралельна ёй у Доме дружбы праходзіць выстава шасьцёх беларускіх мастакоў пад назовам «Гішпанская партыя», прысьвечаная творчасьці вялікіх гішпанскіх майстроў. На адкрыцьці выставы з палатна Алеся Пушкіна, зробленага ў стылі Хоана Міро, да гледачоў выскачыла аголеная дзяўчына — мэтафара жарснай Гішпаніі.

**Юрась Барысевіч**



# ГАДАВІК ІНСТЫТУТУ ГІСТОРЫІ

*Штогоднік Інстытуту гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, 1999: Навуковае выданьне. — Рэдкалегія: М.Касьцюк (гал. рэд.) і інш. — Менск: ІГ, 1999. — 176 с. — Наклад 299 ас.*




Першы крок — самы цяжкі. Пацьверджаньне таму — першы штогоднік Інстытуту гісторыі, які мусіў дайсьці да чытача яшчэ летась, але спатканьне адбылося толькі цяпер.

Увогуле «Штогоднік» — неспадзеўка, і карані выданьня цьмяныя. Ці гэта не адбітак зь вядомага «Штогодніка літоўскай гісторыі»? Але той — выданьне агульнанацыянальнае, а гэты — падкрэсьлена ведамаснае, інстытуцкае. Ці не ў даваенных гістарычных «Працах» яго вытокі? Дык тыя былі агульнаакадэмічныя. Ці гэта не супрацьвага друкаванай гістарычнай лёгкаважнасьці? Як вынікае з прадмовы акадэміка Міхася Касьцюка, «Штогоднік» мае намер зрабіцца пэрыёдыкам, стаць поруч зь іншымі часопісамі і кампэнсаваць іх недахопы публікацыяй матэрыялаў па «найбольш значных праблемах айчыннай гісторыі з ухілам на іх глыбокае тэарэтычнае асэнсаваньне». Сярод іншых названыя «Спадчына», «Беларускі гістарычны часопіс», «Беларуская мінуўшчына», «Архівы і справаводзтва». «Мінуўшчыны» ўжо няма, «Архівы» вельмі спэцыялізаванае выданьне, так што на тле астатніх сваіх калег «Штогоднік» выглядае зусім нядрэнна. Аднак дзіўна, што не названы асноўны канкурэнт новага выданьня на гістарычнай ніве — часопіс «Беларускі Гістарычны Агляд» Генадзя Сагановіча. Ці не таму, што каб яго пераўзысьці, «Штогодніку» трэба разарваць абмежаванае кола сваіх аўтараў-супрацоўнікаў Інстытуту гісторыі, бо «Агляд» ужо даўно лучыць сілы і замежных беларусаведаў, і гісторыкаў самага шырокага профілю.

Ды й ці агульнаінстытуцкім атрымаўся першы выпуск «Штогодніка»? Аматары гістарычнай статыстыкі могуць падлічыць, як у кнізе прадстаўлены розныя аддзелы Інстытуту, але тое, што ў выпуску 1999 году археолягаў няшмат (1 чалавек), гэты факт адразу заўважны. Ёсьць думкі, што і надалей археолягаў трэба трымаць на пэўнай дыстанцыі ад «Штогодніка», а то нанясуць розных чарапкоў. Бяды няма: у інстытуцкіх археолягаў ёсьць свой таксама малатыражны «Гістарычна-археалягічны зборнік», нумар 16 якога ўжо рыхтуецца да друку.

Зьмест «Штогодніка» 1999 году даволі разнастайны: юбілейныя артыкулы пра стварэньне Беларускай Акадэміі Навук і яе Інстытуту гісторыі, пра раньнесярэднявечнае грамадзтва ў Беларусі, сялян-слуг Вялікага Княства Літоўскага, пачаткі лібэралізму ў Беларусі, замежныя інвэстыцыі канца XVIII—пачатку XX стагодзьдзяў, характар і месца кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 году ў гісторыі, «жаночае пытаньне» ў БССР, пратэстантызм. Грунтоўны артыкул Станіслава Рудовіча «Усебеларускі зьезд 1917 г.» — скарочаны варыянт яшчэ больш падрабязнай працы гісторыка на старонках газэты «Пагоня». Бібліяграфічныя артыкулы прысьвечаныя дыплямату XVI ст. Богушу Міхалу Багавіцінавічу і ўсім вядомаму Сімяону Полацкаму. Гэта ўсё з разьдзелу «Артыкулы». Праца пра Сьвіслацкую воласьць у XVI ст. і яе ўладальніка Міхаіла Гарабурду дадзеная ў рубрыцы «Гістарычнае краязнаўства». Гэта, канечне, недапушчальна для акадэмічнай установы. Яна можа займацца краязнаўствам, але гэта ўжо будзе называцца «рэгіянальная гісторыя» ці яшчэ як, а ўласна краязнаўства — удзел школьнікаў.

Рубрыка «Новыя крыніцы» прадстаўляе «наданьне» Максіма Гарэцкага начальніку Сярэдняй Літвы генэралу Люцыяну Жалігоўскаму, каб той дазволіў выдаваць у Вільні беларускую газэту. Нарэшце, разьдзел «Рэцэнзіі» і цьвік выданьня — разгорнутая рэцэнзія Міхася Біча, Георгія Галенчанкі, Іларыёна Ігнаценкі і Ўладзімера Снапкоўскага «Няспраўджаныя амбіцыі і абяцаньні» на сумнавядомы двухтомнік «Гісторыя Беларусі» 1998 году. Вастрыню сытуацыі надае тое, што двухтомнік прэтэндуе на дзяржаўную прэмію.

Пры ўважлівым чытаньні «Штогодніка» выяўляюцца сьляды розных падыходаў у рэдакцыі да некаторых аспэктаў правапісу. На паверхні апынуліся пытаньні напісаньня іменаў. У «Зьмесьце» чытаем: «Сымон Полацкі», «Міхал Гарабурда», у тэксьце артыкулаў: «Сімяон Полацкі», «Міхаіл Гарабурда». У артыкуле пра Полацкага абаснавана правільнае напісаньне ягонага прозьвішча — «Сітняновіч-Пятроўскі» замест паўсюднага «Сітніяновіч-Пятроўскі». Сытуацыя тыпу Міоры-Мёры і Ліозна-Лёзна. Калі гэтыя моўныя праблемы выйшлі на разгляд, было б варта чакаць у «Штогодніку» разьдзела пра гістарычную тэрміналёгію і анамастыку, які, прыкладам, ёсьць у літоўскім «Штогодніку». Дарэчы, чытачы нашага выданьня ў адносінах да Сімяона Полацкага засталіся абдзеленымі інфармацыяй: артыкул пра яго абапіраецца на тэстамэнт маці славутага дзеяча, а самога дакумэнту аўтар тут ня даў. У выйгрышы засталіся чытачы маскоўскага часопіса «Славяноведение», дзе той жа матэрыял забясьпечаны тэкстам тэстамэнту.

«Штогоднік» — сур'ёзная заяўка на новы падыход да гісторыі, і ня толькі як назапашваньня фактаў, але і іх асэнсаваньня. Трэба чакаць у ім працы па мэтадах і мэтадалёгіі, пра новыя накірункі ў дасьледаваньнях, рэцэнзіі, якія ня толькі «за». Чакайма выпуску 2000 году менавіта ў 2000 годзе.

**Валеры Пазьнякоў**

## Новы доктар-музыколяг

28 красавіка пры Ўнівэрсытэце Мічыган, у Энн Арбор, ЗША, сп-ня Марыя Паўля Сурвіла пасьля пасьпяховае абароны дысэртацыі «Аб русалках і рок-сьпеваках: акрэсьленьне сябе й здэфініяваньне нацыі праз беларускую цяперашнюю музыку» атрымала навуковую ступень Доктара Музыкі ў галіне музыкалёгіі.

Каб апрацаваць такую тэму, Марыі Паўлі Сурвіле трэба было правесьці дасьледчую навуковую працу ў Беларусі, у якой яна зроду не была, бо нарадзілася ў Гішпаніі, жыла ў Канадзе, вучылася ў ЗША. Вось жа яна паехала ў Беларусь амаль на цэлы год — 11 месяцаў. У Беларусі яна знаёмілася зь беларускім фальклёрам і сучаснаю беларускаю рок-музыкаю. Гэта было ў 1993 г.

Цяпер Марыя Паўля Сурвіла працуе прафэсарам у Каледжы Вартбург, ЗША. Выкладае музыкалёгію — тэорыю музыкі й падобнае. Яна сябра Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку й Канадзе.

Доктар Марыя Паўля Сурвіла, дачка старшыні рады БНР сп-ні Івонкі Сурвілы й сьветлай памяці Янкі Сурвілы, замужам за Эрыкам Вахманам, таксама доктарам «Performing Arts» — музыкі. Яны маюць паўтарагадовага сынка Антона, які разам з усёй сям'ёй прысутнічаў на ўрачыстай падзеі ўручэньня ягонай маме навуковай ступені доктара.

Вітаем!

**Раіса Жук-Грышкевіч, Таронта**

НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

В.Аксак. **Антычны дождж:** Вершы. — Вільня, 1999. — 134 с. — Наклад 100 ас.

*Валянціна Аксак у Вільні выдала сваю чарговую, прыгожа аздобленую кнігу. Набыць можна ў сядзібе ТБМ у Менску (вул.Румянцава, 13).*

Г.Далідовіч. **Кліч роднага звона:** Раман-кроніка: Для старэйшага школьнага веку/ Мастак А.Кашаноўскі. — Менск: Юнацтва, 2000. — 383 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0359-9

Генрых Далідовіч апісвае паўстаньне беларускае дзяржаўнасьці ў форме Вялікалітоўскага гаспадарства ў XIII ст. Кніга прысьвечаная Міколу Ермаловічу. Каштуе 1300 руб.

А.Клемянок. **Яны ня ведалі мяне:** Вершы. — Маладэчна, 1999. — 52 с.

А.Лойка. **Як агонь, як вада...:** Раман-эсэ пра Янку Купалу: Для старэйшага школьнага веку. — Менск: Мастацкая літаратура, 2000. — 478 с., іл. — (Школьная бібліятэка). — Наклад 23813 ас.

Кніга, у свой час моцна крытыкаваная Георгіем Коласам, каштуе ўсяго 370 рублёў.

З.Марозаў. **Акварэлі пачуцьця:** Лірыка. — Менск: Палібіг, 2000. — 168 с. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-6178-67-3

М.Макарцоў. **Беларусь сьвяткуе:** Сцэнары народных сьвятаў і абрадаў. — Менск: Выдавецтва «Чатыры чвэрткі», 2000. — 132 с., іл. — Наклад 2000 ас. ISBN 985-6089-52-2

*Гэтыя сцэнары аўтар стварыў сам, выкарыстаўшы сабраныя ім узоры фальклёру й творы клясыкаў беларускае літаратуры.*

Наша Ніва: **Першая беларуская газэта з рысункамі.** Выпуск 3. 1910 год. Факсымільнае выданьне. — Менск: Тэхналёгія, 1999. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-6234-84-0

Чытачы аднойленай «Нашай Нівы» й аматары пачытаць старыя нумары «першае беларускае газэты з рысункамі» могуць набыць ейнае факсыміле з 1910 году за 2500 рублёў у краме «Тэхна» (будынак Беларускай акадэміі мастацтваў).

В.Пракапцова. **Мастацкая адукацыя ў Беларусі.** — Менск: Беларускі ўнівэрсытэт культуры, 1999. — 210 с. — Наклад 600 ас. ISBN 985-6579-10-4

Кніга прысьвечана гістарычна-тэарэтычным праблемам фармаваньня мастацкай адукацыі ў нашай краіне як сыстэмы ад вытокаў да нашых дзён.

Кузьма Чорны. **Выбраныя творы**/ Укладаньне і прадмова М.Тычыны, камэнтары М.Тычыны і Я.Янушкевіча. — Менск: Беларускі літаратурны фонд, 2000. — 608 с., (2) арк. іл. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-6576-09-1

Збор твораў выйшаў у сэрыі «Беларускі кнігазбор» і ўлучае раманы, аповесьці, апавяданьні, узоры публіцыстыкі, у поўным, без скаротаў, выглядзе дзёньнік.

**Biaioruskie Zeszyty Historyczne/ Беларускі гістарычны зборнік.** — Беласток, 1999. — 257 с.

Академик М.Ельяшевич: **Воспоминания учеников и современников**/ Складальнік А.Гапоненка, навуковы рэдактар Л.Тамільгін. — Менск, 1999. — 87 с., іл. — (Людзі беларускае навукі). — Наклад 500 ас.

Успаміны вучняў пра вядомага беларускага фізыка М.Ельляшэвіча (1908—1996).

В.Грамыка. **Радуга над дугой.** — Менск: Беларусь, 2000. — 383 с.: іл. — Наклад 2000. ISBN 985-01-0318-3

У сваёй кнізе народны мастак Беларусі В.Грамыка згадвае пра падзеі міжваеннага й паваеннага часу свайго дзяцінства й юнацтва.

**Избирательный кодекс Республики Беларусь.** — Менск: Нацыянальны цэнтар прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусі, 2000. — 167 с. — Наклад 5100 ас. ISBN 985-6488-16-8

*Выбарчы кодэкс сёлетні.*

**Колокол времен:** Популярный исторический журнал. № 2, 2000. — Менск, 2000. — 16 с., іл. — Наклад 10000 ас.

Чытачы маюць магчымасьць пазнаёміцца з помнікамі архітэктуры й таямніцамі славутага мястэчка Гальшаны. Выпуск багата аздоблены каляровымі ілюстрацыямі.

И.Кузнецов. **История государства и права России** (Курс лекций). 2-е выданьне. — Менск: Амалфэя, 2000. — 528 с. — Наклад 5100 ас. ISBN 985-441-104-4

**Основы белорусской национальной хореографии:** Учебно-методическое пособие/ Складальніца Г.Чарнаярава. — Менск: Беларускае выдавецкае таварыства «Хата», 1999. — 122 с, іл. — Наклад 200 ас. ISBN 985-6007-96-8

**Республика Беларусь**/ Пад агульнай рэдакцыяй В.Глушакова ды інш.; Мастак В.Жук. — Менск: Беларуская энцыклапэдыя, 2000. — 128 с., іл. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-11-0148-6

Кніга-альбом прадстаўляе Беларусь як аўтаномную рэспубліку «саюзу».

**Агляд падрыхтаваў Віктар Мухін**

Васіль БЫКАЎ

# МАЛЕНЬКАЯ ЧЫРВОНАЯ КВЕТАЧКА

*прыпавесьць*

Ён вельмі любіў народ, і народ вельмі любіў яго.

Асабліва з таго часу, як успыхнула народнае паўстаньне, якое ён песьціў, рыхтаваў, камандаваў паўстанцамі, здабыў першыя перамогі. Паўстаньне было нялёгкае, перамогі чаргаваліся з паразамі, але народ верыў яму і ішоў за ім. Ён і праўда не шкадаваў ні часу, ні сілы, ні працы свайго глыбокага розуму дзеля сьвятое справы — перамогі народнага паўстаньня.

Сьпярша, як іх было мала, а сілаў злыдняў было ў дзесяць разоў болей, толькі ягоная воля і фанатычная ўпэўненасьць далі моцы паўстанцам не загінуць дарэшты. Паўстанцы вытрымалі ўсё: паразу пад сьценамі крэпасьці, перасьлед, катаваньні ў вязьніцах, кару сьмерцю, палон, эміграцыю. Ён не скарыўся, ён заўсёды казаў: будзе воля, будзе перамога! Загляне сонца і ў наша ваконца. І заклікаў змагацца, не шкадуючы нічога — ні людзей, ні жыцьця, ні жанок, ні саміх сябе. Ён не шкадаваў сябе і нават жонку зь дзецьмі, якіх закатавалі ў палоне.

Як была здабыта вялікая перамога і захоплена непрыступная крэпасьць, народнай любові да яго ня стала межаў. У крэпасьць, якую ён штурмаваў дваццаць дзён, яго ўнесьлі на скрыжаваных дзідах, ахінутых двухкалёрам патрыётаў. Там жа, на падворку крапаснога муру, яму прысягнула новастворaная гвардыя — сотня адборных маладых паўстанцаў. Старшыны гораду паднесьлі яму талерку, поўную залатых манэтаў. Дзесяць гарадзкіх прыгажунь зьнялі з ног ягоныя батфорты і абмылі яго стамлёныя ногі. Яны прысягнулі яму на вечнае жаночае слугаваньне — у вайну і ў міры. У народных вачох ён стаўся самым разумным і сумленным; у жаночых вачох, апроч таго, — самым прыгожым і высакародным. І яшчэ ён быў бескарысьлівы — нічога свайго ня меў, абыходзіўся тым, што давалі. Як ён прамаўляў зь цвінтару гарадзкой катэдры, тысячны натоўп, ня дыхаючы, слухаў яго. Заўжды ён гаварыў, як Бог, не даючы ні малюсенькае нагоды ўсумніцца хоць бы ў адным прамоўленым слове.

Ён заслужона апынуўся на вяршыні ўсеагульнае народнае славы і прызнаньня, якіх, здавалася, у яго ня мог адабраць ніхто — ні д'ябал, ні Бог. У вачох народу ён быў ня меней шанаваны за абодвух.

Кепска, аднак, што на крэпасьці барацьба ня скончылася. Прыгнятальнікі не ўціхамірыліся. Тыя, што ацалелі пры штурме, уцяклі за мяжу, дзе знайшлі падтрымку. Невялікая перадышка ў змаганьні доўжылася колькі месяцаў. Той час ён марна ня траціў. Ён мацаваў гаспадарку і абарону. Дзень і ноч людзі ладзілі крэпасьць, адбудоўвалі пашкоджаныя вежы, вароты і сьцены. Апроч таго, ён дасканаліў войска, прызначаў камандзіраў, стаўляў на пасады самых здольных і храбрых. Але і тыя, за мяжой, ня спалі — стваралі альянсы, вэрбавалі наймітаў, узбройвалі і распалялі нянавісьць да паўстанцаў. Грошай у іх было шмат, войска набралі вялікае. У адзін пагодны дзень тое войска апынулася перад сьценамі крэпасьці.

Ён заклікаў народ да абароны, і народ дружна выступіў. Пачалася аблога, якая доўжылася да позьняй восені. Сьпярша неяк адбіваліся, а затым адбівацца стала цяжэй. Зьнікалі запасы, не ставала вады. Зь недахопам харчу людзі неяк мірыліся, а без вады было зусім нельга. Пачаліся нараканьні, быццам некаторыя зашмат ужываюць вады. Што ваду ў крыніцах труцяць шпіёны. Што наагул зашмат разьвялося шпіёнаў, а ён іх не выкрывае. А тут усчаліся штурмы — дзень пры дні. Асаджаныя біліся гераічна, адбіваліся зь вежаў, са сьценаў — білі ядрамі з гакаўніц і мартыраў, лілі кіпень на галовы ворагаў, распаленую смалу, ужывалі «грэцкі агонь». Ды ворагі не адступаліся, да таго ж іх было безьліч. На чацьверты месяц асады яны абвесьцілі ўльтыматум — здача без усялякіх умоваў. Ён склікаў вялікі сынкліт, які аднагалосна прыняў ухвалу змагацца да перамогі. Ён запэўніў народ у перамозе, і народ, як заўжды, паверыў яму.

Змаганьне доўжылася, але сілы былі няроўныя. Перавага ўсё болей схілялася на бок ворагаў. У крэпасьці скончыўся харч, а пасьля і порах. Палова абаронцаў была параненая. На крапасных сьценах біліся жанчыны, старыя і нават дзеці-падлеткі. Усе верылі, што пераможуць. Ніхто не хацеў здавацца.

Аднак сталася так, што сілаў не хапіла, і аднойчы ворагі ўварваліся ў крэпасьць. Ён асабіста ўзначаліў контрудар, і прарыў быў зьліквідаваны. У тым жа баі ён быў дужа паранены куляю ў абедзьве нагі, але прадаўжаў камандаваць супрацівам. І ён усё цьвердзіў, што перамога будзе. Людзі крычалі «гура». Але ўжо ня ўсе...

Ды во каб адбіць чацьвертае ўварваньне, сілаў ужо не было. Ворагі захапілі кутнюю вежу, і там каля паўстанцкага двукалёру забілі яго. Аддзелу верных яму жанчынаў удалося вынесьці яго цела і ўначы пахаваць пры катэдры. Адна з жанчынаў спрабавала забіць сябе на ягонай магіле, ды ёй не далі. Неўзабаве крэпасьць занялі ворагі.

Народ спазнаў жахлівую паразу. Бальшыню паўстанцаў перабілі, рэшту ўзялі ў палон. Палонных закавалі ў кайданы і адправілі ў каменяломню. Жанчынаў-прыгажунь, што мылі яму ногі, прадалі ў турэцкія гарэмы. Простыя людзі мёрлі з голаду і ад хваробаў. Вясной у краіне ўсчалася эпідэмія чумы.

Пераможцы казалі людзям, што ўсё тое — вынік злачынства іхнага куміра. Што ён авантурыст і антыхрыст. Інакш бы ён не паклаў столькі народу за тое, чаго нельга здабыць. Пераможцаў перамагчы немагчыма. Цяпер за ягоныя авантуры павінен заплаціць народ, і кошт тае платы будзе аграмадны. Народ баяўся і верыў — пераможцам нельга ня верыць. Зь цягам часу людзі ўзьненавідзелі свайго нядаўняга правадыра і дзівіліся, як маглі слухацца яго.

Казалі, што некаторыя з тых, што калісь прысягалі яму, раскапалі ўначы ягоную магілу і выкінулі зь яе ягонае цела. Тое цела, раздраўшы на часткі, валачылі па бруку згаладнелыя сабакі...

Толькі праз шмат гадоў па вясьне, як зазелянела трава, хтосьці паклаў на месца колішняй яго магілы маленькую чырвоную кветачку. Яна там доўга ляжала, ня вянучы...




Новая кніга прыпавесьцяў Васіля Быкава
**ПАХАДЖАНЕ**
Вільня: «Наша Ніва», 2000 (Бібліятэка «Вострая Брама»).
Ужо ў друкарні.

# ВАРОНА



Гэтая гісторыя зусім і не гісторыя, так сабе, нейкая прыдумка. Бывае, уталопіцца штосьці ў галаву й вярэдзіць, і вярэдзіць, і дробна зумкае. Ня тое, каб замінала жыць. Проста ведаеш — недзе ёсьць, прысутнічае ў нетрах сьвядомасьці. Калі заманіцца, прыслухаесься, дык і пачуеш. А не — дык не. Бо хто гэта будзе адмыслова прыслухоўвацца да розных недарэчных дробязяў?

Карацей, усё гэта глупства. І гісторыя ня вартая асобнага расповеду. Аднак, надарылася мне пазнаёміцца з адным чалавекам. Быў ён мастак і меў такія-сякія амбіцыі. Увогуле, я люблю амбітных людзей. Бо калі ты ня маеш жаданьня зьдзівіць сьвет, дасягнуць вяршыні, дык жыцьцё папросту марнуецца. Ходзіш на працу, зарабляеш на хлеб, нэрвуесься з-за дробязяў, змагаесься за месца пад сонцам — гэткая вавёрчына карусэля. Здаецца, бяжыш некуды, напружваеш цягліцы, а сам ведаеш выдатна — нікуды ўсё адно не патрапіш. Можна ня бегчы, а пацяху нечым займацца, нетаропка, з асаладай, з прыемным хваляваньнем у сярэдзіне — проста дзеля справы, проста каб падцерці ўсім нос. Зробіш, азірнесься, а тыя, што беглі, далёка-далёка ззаду. Безнадзейна адсталі. Змарнавалі толькі час. А ўсё з-за чаго? Ня мелі амбіцыяў. Яны думалі: вось зараблю на машыну або стану начальнікам — і буду вялікім чалавекам. Аўто разаб'ецца ў аварыі або заржавее, з пасады звольняць або адправяць на пэнсію — і зноў ні хаты, ні лапаты. А часу ўжо ня вернеш. Таму гэта не амбіцыі, калі нехта хоча стаць начальнікам. Гэта пыха. Вось калі ён імкнецца вынайсьці лекі ад AIDSу або намаляваць геніяльную карціну — гэта амбіцыі. Вызначыць розьніцу між імі нескладана. Сапраўднае застаецца тваім назаўжды. Нават пасьля сьмерці.

Дык вось гэты мастак меў амбіцыі. Ня ведаю, ці меў ён на іх падставы. Бо наўрад ці вы адразу тут і ўзрадаваліся, пачуўшы таямніцу сапраўднага. Не такія вы прастакі. Можна мець вялікія амбіцыі там, дзе нічога табе ня сьвеціць. Гэтак найчасьцей і бывае. Вой як ня проста — мець рэальныя амбіцыі.

Мастака завуць Георг. Родам ён з Арменіі, але гадоў шэсьць жыве ў Менску. Я меў зь ім прыцяглую гутарку. Відавочна, гэта адукаваны чалавек, ён вольна цытаваў гішпанскую паэзію, слушна разважаў пра эўрапейскі жывапіс і ўсходнюю культуру, бо, як прызнаўся, належыць да руху прыхільнікаў філязофіі ёгі. Апошняе, мне падаецца, і сфармавала яго як асобу. Георг доўга разважаў пра лёс і наканаванасьць. Маўляў, і тое, што жыве цяпер у Менску, і тое, што апынуўся ў Полацку — наканаваньне. Гэта зусім ня значыць, што іншага не магло быць, проста дзеля ягонага духовага разьвіцьця тое патрэбнае.

Прызнаюся, Георг — сымпатычны мне чалавек, і я зь цікавасьцю яго слухаў. Аднак у нейкую хвіліну мне ўзгадалася варона, якую колькі тыдняў таму бачыў са свайго вакна. Птушка павольна ляцела ля самага майго пятага паверху, зусім побач, і я пасьпеў яе добра разгледзець. Пёры на крылах, вока, якое не выдавала ніякіх эмоцыяў, падкурчаныя лапкі, графічнасьць дзюбы. Узгадаў, і птушка не выходзіла з маёй галавы. Тады, калі я яе ўбачыў, мне падумалася: вось ляціць некуды й ведае куды, бо, відавочна, ня проста так кружляе. У чым палягае матывацыя яе палёту? Бязглуздае пытаньне, але яно засела ў маёй галаве, і я некалькі разоў вяртаўся да гэтай гісторыі, спрабуючы прааналізаваць усе прычыны й вынікі гэтага. Я разважаў пра пошукі ежы, будаўнічага матар'ялу для гнязда. Але нечакана мне падумалася зусім аб іншым. Што здарылася б із сусьветам, калі б кожная варона страціла разуменьне таго, куды і навошта трэба ляцець?

Я слухаў Георга, а перад вачыма стаяла тая варона, якая, нясьпешна махаючы крыламі, упарта ляцела да нейкай невядомай мне мэты. Ці кіравала ёю ў гэтым палёце наканаваньне? Па вялікім рахунку — так. Бо жыцьцё патрабуе выкананьня запраграмаваных прыродай адпаведных дзеяньняў — сну, харчаваньня, клопату пра патомства. Але варона ляцела менавіта ў тым накірунку, менавіта ў той час, менавіта з той хуткасьцю, менавіта на той вышыні...

Я й дасюль не разьвітаўся з пытаньнем пра варону. Прайшло столькі часу, а яно ўсё не дае мне спакою.

Алесь Аркуш

# САБАЧЫЯ ГІСТОРЫІ

Віктар ШНІП

Адзін сабака закахаўся ў ангельскую прынцэсу. А Граждан быў імпрэсіяністам і па начох з калгаснага поля насіў дахаты бручку.

У скввэры паставілі помнік аднаму сабаку. Граждан начамі прыходзіў да помніка і сьпяваў Інтэрнацыянал.

Адзін сабака пазнаёміўся з афрыканскім Гражданом. Запрасіў яго ў госьці. А Граждан прыйшоў у хату і сказаў: «Ну што, ламбаду танцаваць будзем?»

Ад аднаго сабакі застаўся толькі прывід. Убачыў гэта Граждан і сказаў: «Гэты цень мы прыбліжалі як маглі!..»

Адзін сабака прыйшоў да Гогаля, каб даведацца, чаму ён спаліў другі том «Мёртвых душаў». «А каб Грaжданы пыталіся!» — адказаў Гогаль і памёр.

Там, дзе жыў адзін сабака, зрабілі музэй. А там, дзе жыў Граждан, вырас дуб.

Да аднаго сабакі заляцела ў хату варона. А ўсьлед за птушкай — Граждан на рабым кані.

За адным сабакам хадзілі прыхільнікі яго таленту. Граждан валакаў за сабой агароднае пудзіла і чытаў яму Гамэра.

За аднаго сабаку захацела выйсьці замуж замежніца. Граждан зусім азьвярэў — пагаліў сабе галаву, вышчыпаў бровы, у нос уставіў колца і, выйшаўшы на вуліцу, аб'явіў галадоўку ў гонар галадаючых Паволжа.

Аднаму сабаку патэлефанаваў Граждан і спытаўся: «Што было першым: курыца ці яйка?» Сабака прамаўчаў. І Граждан залез да суседкі ў куратнік і задушыў пеўня.

«Ня бойцеся сабак!» — сказаў Граждан. «Адзін сабака ў полі ня воін!»

За адным сабакам хадзіла дурная слава. Граждан лічыў сябе гарадзкім і езьдзіў на «Запарожцы».

Да аднаго сабакі прыйшоў Фройд. А да Граждана — Фрыдман.

«Калі існуе вечнасьць, няма часу. А калі няма вечнасьці, то час таксама не існуе», — сказаў адзін сабака. Граждан не змаўчаў: «Трэба ўсё ўва ўсіх забраць і разьдзяліць!»

Адзін сабака быў артыстам. Граждан жыў па-суседзку і пасьля бульбы на вячэру, малатком грукаючы ў сьценку, крычаў: «Я цябе навучу Родзіну любіць!»

Адзін сабака вывучаў гісторыю заходняй філязофіі. У Граждана быў «Мэрсэдэс», і ён на ім ужо трох сабак адправіў на той сьвет.

Аднаму сабаку хацелася сямейнага дабрабыту, і ён жаніўся з удавой Граждана. Граждан ляжаў у магіле і варочаўся.

З адным сабакам усе лічыліся. Граждан хварэў на пранцы і пісаў мэмуары пра Грaжданскую вайну.

Ад аднаго сабакі Граждан даведаўся, што на Марсе існуе жыцьцё. І Граждан, седзячы ў прыбіральні, дрыжачым пальцам напісаў: «Тут быў Коля!»

У аднаго сабакі вучоныя знайшлі інтэлект. Граждан перавярнуў усё ў хаце і сказаў: «Сьцяна — белая. З-пад крана цячэ вада. А з сабакам я ўсё роўна вітацца ня буду!»

У аднаго сабакі ў кватэры пагасла сьвятло. Гэта сусед Граждан уключыў бэнзапілу.

Адзін сабака жыў у сабачым горадзе. Грaжданы прыяжджалі на экскурсію і елі марозіва ля помніка Дзяржынскаму.

Аднаму сабаку прыйшла думка зрабіць так, каб усім было добра. Граждан катэгарычна адмовіўся: «Не хачу!» і напісаў ліст Пінaчэту: «Мілы дзядуля, забяры мяне адгэтуль!»

Сядзеў на лавачцы адзін сабака. Побач ішоў Граждан і сказаў: «Вы яшчэ не памерлі?»

Адзін сабака пайшоў у цырульню. І яго падстрыглі пад Граждана.

Адзін сабака сачыніў «Лысую гару» і падпісаўся Францішак Вядзьмак-Лысагорскі. А нехта пусьціў чутку, што гэты твор мог напісаць толькі Граждан.

Аднаму сабаку за вываз гною на поле далі грамату. З подпісам Граждана і заклікам: «Грaжданы ўсіх краін, яднайцеся!»

Адзін сабака прыдумаў сьвята — Дзень Граждана. І Граждан сказаў сабаку: «Быў бы я мастаком, я б зь цябе карціны пісаў!»



## ад Граждаnoў

Калі ты патрабуеш свабоды і справядлівасьці, а нейкі мярзотнік сьмее нацкоўваць на цябе сабаку, я кажу табе: «Забі гэтага сабаку!» Я паўтараю табе зноў і зноў, нават калі мне давядзецца заплаціць за гэта сваім жыцьцём: «Забі гэтага сабаку! Забі гэтага сабаку!» Так пісаў Малькальм Х.

**Геранім Цэлюсь, Менск**

Адзін сабака памяняў сваю будку ў Малінаўцы на такую ж у Шабанах. Але з даплатай. А ў Граждана Валавы Ўнутраны Прадукт узрос на 4,68%.

Адзін Граждан сваім Указам прысвоіў В.Шніпу званьне «Заслужаны Гражданазнаўца і Ганаровы Сабакалюб». З уручэньнем дзесяці кіляў «Пэдыгрыпалу».

Адзін Граждан начытаўся «Нашай Нівы» і вырашыў, што шніп — гэта такая парода сабак.

**В.В., Менск**

Адзін сабака мераў сутану. А Граждан спытаўся: «Почем опиум для народа?»

**Serge**

Усю зіму сабака праляжаў на сене, і Граждан вымушаны быў карміць карову саломай.

Адзін Граждан зьеў сабаку. Але зубы выплюнуў.

Адзін Граждан ляжаў у маўзалеі. Другія хадзілі да яго. І толькі сабака не хадзіў — ён быў паралізаваны.

Адзін сабака быў дужа пародны, а Граждан таксама жыў у падвале.

**Сяржук Гр.Сабакевіч, Магілёў**

Каб не Студэнты, сьвет бы складаўся з Сабак і Грaжданоў.

За кратамі Граждан піcаў вершы. Сабака друкаваў. Студэнты плакалі. А я чытаў і зьдзіўляўся.

Граждан спужаўся Сабакі і залез у БТР. А як убачыць Студэнта ці, барані Бог, мяне?

Сабака ішоў у нагу з Гражданом. Але не атрымлівалася, хоць ён вельмі стараўся.

Калі параўнаць Сабаку і Граждана, ёсьць адрозьненьне — хвост. Да каго ж аднесьці пасьняховага Студэнта?

Калі ў Сабакі хвост абаранкам, значыць, яго продкі жылі ў Смургонях.

Граждан кінуў піць, бо памёр. Сабака пахаваў яго, але не плакаў.

**P.S.** «Сабачыя гісторыі» нагадалі мне чамусьці батлейку. Таму і вырашыў крыху пашырыць колькасьць пэрсанажаў.

**Вангор Вушацкі, Маладэчна**



Шчыра дзякуем старшыні Фонду памяці Натальлі Арсеньневай спадарыні **Раісе Жук-Грышкевіч**, а таксама ўсім сябрам Фонду за матэрыяльную дапамогу, аказаную беларускім студэнтам.

Мы хоць і жывем на розных кантынэнтах, але працуем разам дзеля незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны і захаваньня правоў чалавека.

Алесь Бяляцкі



Маладафронтаўку
**Ільіну Насьцю**
зь Берасьця віншуюць сябры і сяброўкі з Днём народзінаў





## прыватныя абвесткі



## паштовая скрынка

*Міхасю Б. з Магілёва. Пачатак — як у добрага эсэ. Вельмі ж гісторыі і пэрсанажы наскія. А далей ужо ідзе не эсэ, а прамова, да таго ж вузкаспэцыялізаваная. Вось каб жа Вы гэты сардэчны пачатак узялі ды разьвілі ў эсэ.*

*Вячаславу М. зь Менску. Ваша рэцэнзія напісаная як выдатнае вучнёўскае сачыненьне. Уявіце, што ў каледжы Ваш настаўнік быў бы ў захапленьні. Але для газэтнай крытыкі тут мала жару і праблемнасьці, затое празь меру ацэнак.*

*Канстанціну К. з Магілёва. Калі вернецеся са Здалбунава, абавязкова напішэце нам пра гэты горад, пра цяперашчыну Валыні, пра свае пошукі і пра магілу Кандрата Лейкі, калі Вы яе здолееце адшукаць. Адрас Мікалая Сідарэвіча і музэю «Літаратурная Слонімшчына»: Слонім 231800 вул. 1-й Семігодкі 8/7. Тэл. (01562) 3-12-78.*

*Андрэю З. зь Менску. «НН» ня можа аддаваць перавагу якой-кольвек адной канфэсіі, бо рэдакцыя, як і ўсё беларускае грамадзтва, шматканфэсійная. Не зьяўляемся мы і спэцыялізаваным тэалягічным выданьнем. Таму ў нашых публікацыях царква разглядаецца найперш як асяродак культуры — наколькі ён традыцыйны беларускі, незалежна ад канфэсіі. Таксама пішам мы пра перасьлед уладаў у дачыненьні да рэлігійных дзеячоў, бо асьвятляць такія выпадкі — наш маральны абавязак. Даваць тэалягічныя ацэнкі той ці іншай рэлігійнай ініцыятыве — ня маем ані мэты, ані права.*



**КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________


«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Рэдактар аддзела інфармацыі Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Віктар Корзун. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук.
**Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**



Наклад 3744. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 04.06.2000. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 2782. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас Менск, Бабруйская, 19/36